ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

**№ 1** 5 студзеня 1995 г. Выдаецца з 1955 г.

(2403) Цана 100 рублёў.

ВАНДРОЎКА Ў ПАРЫЖ

## У ПОШУКАХ НЕАДКРЫТАГА



Неабходнасць наведаць Парыж паўстала перада мною ў лістападзе--снежні 1993 года. Я адбываў тады стажыроўку пры Інстытуце літаратурных даследаванняў Польскай акадэміі навук, і мне трапіліся дакладныя звесткі, што ў Парыжы захоўваюцца рукапісы беларускіх літаратараў: асабісты архіў Вайніслава-Казіміра Сулімы-Савіч-Заблоцкага (памерам 626 аркушаў), 7 сшыткаў успамінаў Аляксандра Рыпінскага пра паўстанне 1831 года ды іншае. Належала "пакратаць" дакументы ўласнаручна.

Яшчэ з Варшавы я паслаў адпаведную просьбу ў Парыж. Вясною 1994 года прыйшло паведамленне ад Польскага гісторыка-літаратурнага таварыства ў Францыі, што Стыпендыяльная Камісія імя Ст. Лема прызначыла стыпендыю. Паколькі ў мяне заставалася да канца не рэалізаванай трохмесячная стажыроўка ў архівах Польшчы, парыжская вандроўка адсунулася на восень.

Неверагодна, але, ведаючы ледзь не за паўгода наперад пра сустрэчу з Францыяй, вольнага часу настроіцца на "парыжскую меланхолію" я так і не дабраў праз штодзённую занятасць.

Урэшце давялося часова адкласці клопаты над планавай тэмай у родным акадэмічным інстытуце літаратуры, турботы рэдактара-складальніка гісторыка-дакументальнай хронікі "Памяць" Валожынскага раёна і заняцца будучай вандроўкай.

Мой рэальны Парыж распачаўся клопатамі пра французска-нямецкія візы ды іншыя паперы (тут да месца згадаць удзячным словам прыязную апеку былога міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі ды акадэміка Радзіма Гарэцкага).

Толькі ў камфартабельным аўтобусным "лайнеры" паміж Варшавай і Парыжам будучая сустрэча з архіўнымі таямніцамі горада на Сене-Сэкване не вымалявалася рэальнай. Аднак разгубленасці ў сабе не адчуў. (Забягаючы наперад, адзначу, што за ўвесь час побыту ў Францыі толькі ў адным пачуваўся ніякавата: у няведанні французскай мовы. Але з гэтым паспяхова змагацца мне дапамагала жонка Галіна, якая някепска валодае ангельскай. Наогул, варта было толькі разгублена прыпыніцца з планам места, як да нас падыходзілі парыжане, зычліва прапаноўваючы свае паслугі. І міжволі знікае збянтэжанасць, калі бачыш насупраць добразычлівую ўсмешку).

Парыж робіць самавітае ўражанне: і колерамі, і памерамі, і архітэктурай. Нават у дождж ён мог выглядаць срабрыстым. Праўдзіва: Парыж ёсць Парыж. Мне толькі было шкада натоўпы турыстаў, якія ў дождж пахапліва-сквапна шчоўкалі апаратамі ці вадзілі рулямі відэакамер. У мяне ж была магчымасць прычакаць за месяц будучай стажыроўкі не адзін сонечны дзень для здымкаў парыжскіх краявідаў. Што да турыстаў, заўважу яшчэ адну асаблівасць: дзякуючы ім, амаль цэлы тыдзень Парыж падаецца нейкім усходне-азіяцкім горадам, а на выхадныя, заліты нямецкімі турыстамі, -- часткай Германіі.

У Парыжы я планаваў працаваць пераважна ў Аддзеле рукапісаў Польскай бібліятэкі і ў фондах Музея імя Адама Міцкевіча, якія месцяцца на вуліцы Арлеан на ўзбярэжжы Сены, у нейкіх 5 хвілінах хады ад слыннага Нотр-Дама (Biblioteka Polska w Paryzu).

Атрымліваючы частку стыпендыі (усёй сумы ў канцылярыі наяўнымі не мелі, бо я не папярэдзіў пра дакладную дату прыезду), жартам кінуў, што не так сквапны на грошы, як на працу. Папрасіў, ці магу сядзець тут даўжэй за афіцыйны расклад працы бібліятэкі 14.00--18.00. Сам дырэктар адказаў: "Zasadniczo nie" (прынцыпова не). І вінавата патлумачыў: "каб не ствараць прэцэдэнтаў".

Настойваць на парушэнні прынцыповага "не" не хацелася. Але тым самым разбурыўся ранейшы стэрэатып пра "страшэнную працавітасць на Захадзе". Замест таго каб завалiць мяне бібліятэчнымі рукапісамі, кнігамі за атрыманую стыпендыю, мне не дазволілі працаваць ані раніцою, ані ў так званы санітарны дзень, панядзелак. (Потым я даведаўся, што Бібліятэка -- грамадская ўстанова. Утрымліваецца не з дзяржаўных сродкаў, а з прыватных ахвяраванняў. У пэўныя дні сюды прыходзяць дапамагаць-дзяжурыць за проста так жанчыны-полькі пенсійнага ўзросту).

У першы дзень наведання сам дырэктар (як выявілася, наш зямляк -- родам з Бабруйска) Лешак Талька правёў кароткую, але адмысловую экскурсію па музейнай экспазіцыі. Мо з увагі, што са мною разам прыехала не толькі жонка Галіна, але і малодшы брат Валяр'ян, аўтар помніка Адаму Міцкевічу ў Навагрудку.

Вось некалькі штрыхоў з гісторыі бібліятэкі, у якой мне належала працаваць.

Будынак Польскай бібліятэкі ў Парыжы і музея Адама Міцкевіча набыты ў 1853 годзе. Дзе цяпер аддзел рукапісаў, там была стайня мансеньёра Антуана дэ Маро.

(Працяг на 7-й стар.).



**Разнастайныя мастацкія вырабы з саломкі -- сапраўдны цуд. Залацістыя коні, зубры, павукі, дробныя цацкі прыводзілі і прыводзяць у захапленне гледачоў у любой краіне, куды б ні траплялі унікальныя творы нашых народных майстроў. "Якія вы багатыя і таленавітыя!", -- часта на выставах занначаюць зарубежныя госці, даведаўшыся, што вырабы зроблены з натуральнага матэрыялу і ўручную.**

**Задоўга да Калядаў і Новага года ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры была наладжана выстава "Калядныя ўзоры", арганізаваная Саюзам майстроў народнай творчасці Беларусі.**

(Заканчэнне на 8-й стар.).

**"Самыя знакамітыя роды ў Польшчы паходзяць пераважна з Літвы. Чартарыскія, Радзівілы, Агінскія, Сапегі, Тышкевічы, Пацы, Сангушкі -- гэта ліцвіны... Паходзячы з ліцвінскага роду, я нарадзіўся ў Польшчы". Гэтыя словы належаць Міхалу Клеафасу Агінскаму. Нават той, хто ніколі не вучыўся музыцы, ведае яго паланез ля-мінор. "Ёсць мелодыі, якія чуеш так часта, што пачынаеш грэбаваць імі... Але колькі б ты ні слухаў паланезы Агінскага, а асабліва вялікі паланез ля-мінор ("Развітанне з радзімай") -- ён застанецца блізкі і дарагі твайму сэрцу, будзе закранаць у ім самыя глыбінныя, самыя свае струны".**

*("Вялікі грамадзянін і творца". Стар. 6).*

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ
ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ПАВІНШАВАЎ ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР*



**Напярэдадні Новага года прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Міхаіл Чыгір наведаў дзіцячы аздараўленча-адукацыйны цэнтр "Надзея" ў Вілейскім раёне. Ён азнаёміўся з тым, як жывуць і вучацца юныя пацыенты цэнтра, павіншаваў дзяцей з надыходзячым святам і ўручыў падарункі.**

**НА ЗДЫМКУ: у час наведання дзіцячага аздараўленчага цэнтра "Надзея".**

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## СПЕЦФАРМІРАВАННЕ

**Беларусь стане першай сярод дзяржаў -- членаў СНД, дзе будзе створана спецыялізаванае воінскае фарміраванне па правядзенню пошукавай работы, звязанай з увекавечаннем памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў.**

**Падобныя падраздзяленні ўжо даўно існуюць у шэрагу заходнееўрапейскіх краін. У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Беларусі А.Лукашэнкі, арганізаваць данае фарміраванне колькасцю да 200 чалавек прадпісана Міністэрству абароны.**

*КОНКУРСЫ*



**Трэці Рэспубліканскі конкурс сясцёр міласэрнасці Беларусі адбыўся ў Мінску. Шаснаццаць прадстаўніц з розных рэгіёнаў рэспублікі, якія перамаглі ў адборачных спаборніцтвах, змагаліся за званне лепшых.**

**Ганаровымі гасцямі конкурсу былі прэзідэнт Германскага Чырвонага Крыжа пан Бота Прынц Зайн-Вітгенштэйн і прадстаўнік Міжнароднай Федэрацыі таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца пан Джэймс Хіл (Жэнева).**

**НА ЗДЫМКУ: сясцёр міласэрнасці вітае пан Бота Прынц ЗАЙН-ВІТГЕНШТЭЙН.**

*ФОНД СОРАСА*

## ДЛЯ ЛАЗЕРНАГА ДЫСКА

**Беларускі Фонд Сораса прадаставіў Беларускай сельскагаспадарчай бібліятэцы грант -- 11 тысяч амерыканскіх долараў для закупкі ў Англіі лазернага дыска з базай даных навуковай інфармацыі па сельскай гаспадарцы і біятэхналогіях.**

**Гэта база даных карыстаецца найбольшым аўтарытэтам у вучоных-аграрнікаў і біёлагаў усяго свету. У ёй адлюстраваны навуковыя публікацыі з 10 тысяч лепшых сельскагаспадарчых часопісаў свету.**

*НАФТА І ГАЗ*

## РАСІЯ АБЯЦАЕ

**Аб'ём магчымых паставак нафты з Расіі ў Беларусь складзе ў 1995 годзе каля 10,5 мільёна тон.**

**На сёння з расійскім акцыянерным таварыствам "Газпрам" узгоднены пастаўкі на 1995 год прыроднага газу ў аб'ёме 16 мільярдаў кубічных метраў, што перавышае паказчык гэтага года больш чым на мільярд кубічных метраў. Аднак пастаўкі нафты і газу ва ўказаных аб'ёмах магчымыя толькі на ўмовах своечасовай аплаты.**

*СУМНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## ЦЭНЫ І КІШЭНЯ

**Вынікі работы народнай гаспадаркі рэспублікі і паказчыкі сацыяльна-эканамічнага развіцця за 11 месяцаў сведчаць, што за лістапад адносна кастрычніка спажывецкія цэны на тавары і паслугі ўзраслі на 40,5 працэнта (у кастрычніку -- 25,7, верасні -- на 25,5), у тым ліку на харчовыя тавары -- на 41 працэнт, нехарчовыя -- на 33,1, паслугі -- на 56,8 працэнта. Найбольш высокімі тэмпамі ў лістападзе раслі цэны на яйкі, ялавічыну, каўбасныя вырабы, тлушч, каву, масла, фрукты. Цэны на гародніну ў лістападзе былі на 1,5 працэнта ніжэйшыя, чым у кастрычніку. З нехарчовых тавараў найбольш істотна прыбавілі ў цане лінолеум, футравыя вырабы, дываны, мыла гаспадарчае.**

**У студзені-лістападзе ўсе грашовыя даходы насельніцтва склалі 9 314 мільярдаў рублёў і ўзраслі, адпаведна, у 20,4 раза. Рэальныя грашовыя даходы зменшыліся ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 22,5 працэнта. З агульнага аб'ёму грашовых даходаў 17,6 працэнта пайшло на выплату падаткаў і ўзносаў.**

**Сярэдняя заработная плата, разам з матэрыяльнай дапамогай і сацыяльна-працоўнымі льготамі, паводле разліковых даных, склала ў лістападзе 237 тысяч рублёў, без дапамогі і льгот -- 212 тысяч. Рэальная заработная плата, налічаная ў кастрычніку, зменшылася адносна кастрычніка мінулага года на 41,6 працэнта.**

*ЗВАРОТ ДА ВЯРХОЎ*

## БЗВ ПАТРАБУЕ РЭАБІЛІТАЦЫІ

**Слуцкая раённая арганізацыя патрыятычнага руху "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў" звярнулася да Вярхоўнага Савета, Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь з патрабаваннем перагляду справы і рэабілітацыі бязвінна асуджаных па факту падпалу Слуцкага суда.**

**Вясной 1967 года ў Слуцку адбылася трагедыя -- быў спалены будынак суда. Былі ахвяры.**

**"Мы не ставім сваёй мэтай аналізаваць той судовы працэс, які падштурхнуў народ да такіх радыкальных дзеянняў, не крытыкуем дзеянні суддзяў, якія вельмі мякка асудзілі сына камуністычнага боса за забітага па-зверску чалавека. Але, як сведчыць гісторыя нашай краіны, такія дзеянні цярплівых нашых беларусаў можна выклікаць толькі яўнай несправядлівасцю. Самае непрымальнае ў гэтай сумнай гісторыі тое, што больш за дзвесце ўдзельнікаў тых вогненных падзей былі асуджаны да розных тэрмінаў зняволення, тры -- расстраляны", -- гаворыцца ў заяве слуцкай арганізацыі "Беларускае згуртаванне вайскоўцаў".**

*АД БЕДНАСЦІ*

## РЭАКТАР ДЭМАНЦІРАВАНЫ

**У пасёлку Сосны пад Мінскам дэманціраваны атамны рэактар Інстытута праблем энергетыкі Акадэміі навук Беларусі. Спачатку яго хацелі адрамантаваць, але ў сувязі з тым, што для гэтага патрабуюцца вялікія грошы, вырашылі наогул ліквідаваць. Абсталяванне, якое прайшло дэзактывацыю, адпраўлена на спецпрадпрыемства. Ядзернае паліва яшчэ на пачатковай стадыі дэмантажу было вывезена ў Расію.**

*ВУЛІЦЫ НАВАГРУДКА*

## СЛЫННЫЯ ІМЁНЫ

**Імя Францыска Скарыны прысвоена адной з новых вуліц у Навагрудку. Такое рашэнне мясцовыя ўлады прынялі па прапанове створанай пры гарвыканкоме тапанімічнай камісіі. Адначасова яшчэ пяць новых вуліц горада атрымалі імёны нашых славутых землякоў: Іаахіма Храптовіча, Уладзіслава Сыракомлі, Ігнацыя Дамейкі, Уладзіслава Дыбоўскага, Янкі Нёманскага. Апошні быў ураджэнцам Навагрудчыны і загінуў у гады сталінскіх рэпрэсій. Яшчэ адна вуліца носіць імя Міхала Клеафаса Агінскага.**

*НАРОДНЫЯ ТАЛЕНТЫ*



**Маладзёжны фальклорна-этнаграфічны калектыў "Вітанне" створаны пры Крычаўскім цэнтры культуры. Самадзейныя артысты паказалі ўжо сваё майстэрства не толькі землякам, але і жыхарам Мінска і Магілёва.**

**Моладзь выступае арыгінальна, свежа і каларытна. Старыя песні і танцы ў выкананні "Вітання" добра ўпісваюцца ў сучасныя святочныя канцэрты і гулянні.**

**НА ЗДЫМКУ: на сцэне -- калектыў "Вітанне".**

*БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ*

## ВІЦЕБСК — РУСКІ ГОРАД

**71 тысяча школьнікаў Віцебшчыны, ці 36 працэнтаў ад агульнай іх колькасці, вучацца сёння ў беларускамоўных класах.**

**Школы, якія цалкам асвоілі праграмы навучання на роднай мове, дзейнічаюць у асноўным у сельскай мясцовасці. Асабліва пастараліся ў гэтым педагагічныя калектывы Ушацкага, Шаркаўшчынскага, Докшыцкага раёнаў, дзе колькасць беларускіх школ перавысіла за 90 працэнтаў. Аднак у самім абласным цэнтры ніводнай такой школы няма.**

*ЮБІЛЕІ*

**Імя Віктара Тарасава, артыста тэатра імя Янкі Купалы, знаёмае ў рэспубліцы практычна кожнаму. Нават тыя, хто рэдка ходзіць на спектаклі, ведае яго па кіна- і тэлефільмах, пазнае яго голас па радыё.**

**Віктар Тарасаў увайшоў у сузор'е майстроў купалаўскай сцэны ў 1957 годзе пасля заканчэння тэатральна-мастацкага інстытута. І ўжо першай сваёй роляй -- Якава ў спектаклі па п'есе Міхаіла Святлова "Праз 20 гадоў" -- заявіў пра сябе як цікавы, глыбокі акцёр. Будучы вучнем выдатнага беларускага педагога і рэжысёра К. Саннікава, В. Тарасаў змог прадоўжыць прафесіянальную адукацыю, працуючы побач з праслаўленымі майстрамі сцэны Г. Глебавым, Б. Платонавым, У. Дзядзюшкам, Л. Рахленкам. У купалаўскім тэатры шліфавалася майстэрства маладога акцёра, тут прыйшла і сталасць.**



**Не пералічыць ролей, сыграных Віктарам Тарасавым. Падзеяй у яго акцёрскім лёсе сталі вобразы К. Заслонава ў аднайменнай п'есе А. Маўзона, Ф. Скарыны ў п'есе А. Петрашкевіча "Напісанае застаецца", Цясленкі ў "Апошнім шанцы" В. Быкава, работы ў спектаклях "Выклік багам", "Лявоніха на арбіце", "Людзі на балоце" і іншых. Запомніліся гледачу і створаныя артыстам вобразы адмоўных персанажаў.**

**У канцы мінулага года Віктару Тарасаву споўнілася 60 год -- узрост, калі можна падвесці пэўныя вынікі і яшчэ нямала здзейсніць.**

**НА ЗДЫМКУ: акцёр Віктар ТАРАСАЎ.**

*ПАРТНЁРЫ*

## ЛЬГОТЫ ДЛЯ МІНЧАН

**Мэрыя горада Ліёна перадала ў Пасольства Беларусі ў Францыі інфармацыю аб тым, што муніцыпальны савет прыняў рашэнне аб прадастаўленні турыстам і іншым асобам, якія прыедуць у Ліён з Мінска, права бясплатнага наведвання муніцыпальных музеяў, басейнаў, каткоў па прад'яўленні дакумента, што сведчыць асобу.**

**Аналагічныя льготы прадастаўляюцца жыхарам усіх іншых гарадоў-партнёраў Ліёна. Дарэчы, сярод найбольш вядомых музеяў Ліёна -- мастацкі, гісторыі горада, Купал, друкарскай справы, банкаў, аўтамабіляў, гісторыі тканін, дэкаратыўнага мастацтва.**

*ПЛАНУЕЦЦА*

## МЕТРАПАЛІТЭН РАСЦЕ

**Мінскае метро мае 2 лініі агульнай працягласцю 17,6 кіламетра, на якіх дзейнічаюць 15 станцый. Не спыняюцца будаўнічыя работы па пашырэнню "падземкі". 9 мая 1995 года плануецца пуск веткі "Фрунзенская -- Маладзёжная -- Пушкінская". Прыблізна ў 1996 годзе будуць хадзіць электрычкі па ўчастку "Трактарны завод -- Партызанская -- Аўтазаводская", а ў 1998 годзе -- па ўчастку "Аўтазаводская -- Магілёўская". Пакуль не вызначаны тэрмін запуску веткі "Пушкінская -- Жудро -- Заходняя -- Кунцаўшчына". Таксама вядуцца праектныя распрацоўкі і па пашырэнню першай лініі за кошт участкаў "Усход -- Філіял БДПА -- Уручча -- Спорткомплекс" і "Інстытут культуры -- Паўднёвы Захад".**

*АДНАЎЛЕННЕ*

## ПАЛАЦ БУТРЫМОВІЧА

**Пасля доўгіх дыскусій выдатны помнік дойлідства XVII стагоддзя -- палац Бутрымовіча -- набыў, нарэшце, гаспадароў. Рашэннем Пінскага гарвыканкома архітэктурная славутасць перададзена мясцоваму аддзелу ЗАГС, які плануе размясціць тут Палац шлюбаў. Цяпер жа палац Бутрымовіча знаходзіцца ў аварыйным стане і з-за парушэнняў у дрэнажнай сістэме катастрафічна разбураецца.**

## БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ: ХТО МЫ ЁСЦЬ?

# II. ЯК "КРУПІЦКІЯ МУЗЫКІ" АБ'ЯДНАЛІ БЕЛАРУСАЎ ЭСТОНІІ



Такой колькасці людзей, што прыйшлі на вечарыну "Спатканне" (амаль 1 000 чалавек!), зала былога Дома афіцэраў флоту ў Таліне не збірала ўжо даўно. Тут прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрстваў культуры і замежных спраў Эстоніі, паслы Расіі і Украіны ў Эстоніі, дэлегацыя з Мінска. Прывітаць беларусаў прыйшлі прадстаўнікі армянскай, украінскай, рускай, азербайджанскай і іншых суполак нацыянальных меншасцяў. Ігар Баброўскі -- выпускнік аддзялення міжнародных зносін БДУ, які стажыраваўся летам у Беларускім консульстве ў Таліне, прывітаў гасцей на беларускай, эстонскай і англійскай мовах.

То быў незвычайны вечар адкрыццяў і нечаканасцей не толькі для гасцей, а і для саміх беларусаў. Нават арганізатараў імпрэзы чакала неспадзяванасць: колькасць дранікаў, якімі ім так хацелася пачаставаць гасцей, саступала мінімум разоў у пяць колькасці прысутных. Велізарная грамада, якую сабрала "Спатканне", сведчыць не толькі аб добрай арганізацыі вечарыны, але і аб вялікай цікавасці да беларусаў і Беларусі.

Вядома, стаўленне да нашага народа ў Эстоніі самае рознае, для гэтага існуюць як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя прычыны.

За выключэннем прывітальных слоў спадара М.Салаўя ад Задзіночання славянскіх асветніцкіх таварystваў, якія прагучалі вельмі шчыра, амаль усе астатнія прамовы былі больш чым сціплыя. У гэтым, на маю думку, можна было адчуць некаторы недавер да таго, што робяць беларусы. І магчыма нездарма прадстаўнік азербайджанскай суполкі як быццам бы нагадаў, што народ, які памятае свае карані, ведае сваю гісторыю і культуру, зойме адпаведнае месца ў любым грамадстве. Уся першая палова вечарыны ператварылася ў сугучча эстонскіх, украінскіх, рускіх песень. Свята беларускага фальклору было яшчэ наперадзе. Ну а паколькі імпрэза "Спатканне" задумвалася ўсё ж, як першы крок да аб'яднання, цікава было пачуць меркаванні прадстаўнікоў суполак, якія будуць уваходзіць у склад новай арганізацыі.

**Маргарыта АСТРАВУМАВА**, старшыня Беларуска-эстонскага задзіночання "БЭЗ", г. Кохтла-Ярве.

-- Гісторыя беларускіх суполак у Таліне не вельмі добрая. Яны маленькія, не могуць знайсці паразумення паміж сабой, іншыя наогул развальваюцца. І вось Ніна Савінава пачала, так бы мовіць, агульную справу на карысць усім. Калі новая арганізацыя будзе аб'ядноўваць усіх беларусаў Эстоніі, мы, безумоўна, у яе ўвойдзем, але яе статут павінен нас задавальняць.

**Зінаіда КЛЫЧА**, сябра "БЭЗу", дадала:

-- Нас запрасілі на ўстаноўчы сход па ўтварэнню новай суполкі. Мы паслухалі прапановы і пагадзіліся, што сэнс і падставы для такога аб'яднання ёсць. Але нас хвалюе, як мы будзем супрацоўнічаць і як гэта падтрымаецца далейшай працай. Наша суполка існуе ўжо амаль 6 гадоў. Мы ведаем, што робім, і, падаецца, каардынаваць нашу справу не трэба. Калі ж можа спатрэбіцца наш вопыт і дапамога, дык калі ласка.

**Пётр ТРУС**, сябра суполкі "Лёс":

-- На маю думку, у гэтай арганізацыі ёсць будучыня, і я лічу, што працаваць трэба толькі разам.

**Анатоль ЛАПЫШАЎ** -- старшыня Таварыства беларускай культуры ў Таліне:

-- Тое, што сёння нешта ўсё ж падштурхоўвае беларусаў вызначыцца і набыць адметнасць сярод іншых нацый, я, безумоўна, вітаю. Але асабіста для мяне само ўтварэнне новай суполкі не зусім зразумелае ў тым сэнсе, што выглядаць яна будзе хутчэй як філія ЗБС "Бацькаўшчына". І назва тая ж. Другое, што не зразумела, -- далучэнне да нашай справы "Саюза славянскіх культур". Туды ўваходзяць розныя нацменшасці. Хіба гэта не азначае, што на нашых пасяджэннях мы зноў павінны будзем размаўляць па-руску? Я вельмі баюся той масавай культуры, якая існавала ў былыя савецкія часы і пасля якой нічога ў душы не застаецца. Нягледзячы на ўсё прыгаданае, мы пакуль падтрымліваем ідэю аб'яднання: трэба выкарыстаць і гэты шанц.

Прадстаўнікоў з "Грунвальда", наогул, адшукаць не пашчасціла. Праўда, і без іх вышэйпрыгаданыя выказванні іншых сведчаць, што да аб'яднання яшчэ далёка. Але людзі для таго і збіраюцца, каб паразмаўляць, абмяняцца думкамі і аб нечым дамовіцца. Патлумачыць нейкія ўзнікшыя пытанні я папрасіла старшыню ЗБС "Бацькаўшчына" і старшыню будучай арганізацыі.

**Ганна СУРМАЧ:**

-- Большасць суполак прынялі на сваіх сходах пастановы падтрымаць ідэю стварэння як бы аб'ядноўваючай арганізацыі, і, такім чынам, апошняя набывае статус сапраўды прадстаўнічага органа беларускіх суполак у Эстоніі. Такая практыка ўжо ёсць у Польшчы. Што ж тычыцца дачынення да яе ЗБС "Бацькаўшчына", дык кіраўніцтва новай суполкі выказала жаданне ўвайсці ў наша згуртаванне ў якасці супольнага сябра. Гэта будзе разглядацца на нашым пасяджэнні. Калі ўсё атрымаецца, мяркую, кантакты паміж Эстоніяй і Беларуссю павінны значна спрасціцца.

**Ніна САВІНАВА:**

-- Урад Эстоніі не вельмі зацікаўлены ў адзіным славянскім саюзе, і гэта разумна. Вось мы і вырашылі стварыць свой цэнтр беларускай культуры. Як мы будзем працаваць? Мяркую, што ён аб'яднае розныя суполкі, але працаваць яны будуць самастойна. Узаемадзеянне будзе ажыццяўляцца праз іх прадстаўнікоў. Ну а разам мы будзем вырашаць больш глабальныя праблемы, якія тычацца ўсіх суполак. Беларусам, што жывуць тут, вельмі важна вытрымліваць той узровень, які існуе ў Эстоніі. Мы павінны трымацца разам, бо зрабіць гэта паасобку амаль немагчыма.

Заўважана слушна, і вельмі добра, што спадарыня Савінава гэта разумее. Аднак была на вечарыне яшчэ адна неспадзяванка, пра якую і прыгадваць прыкра, але, калі ёсць мэта прытрымлівацца пэўнага ўзроўню, не заўважыць яе нельга. Наўрад ці эстонскі або які іншы гаспадар запрасіў бы да сябе гасцей, а сам у той прызначаны час сышоў бы ці знайшоў справы больш важныя. З беларусамі, на жаль, такое здараецца.

Ніхто мне дакладна так і не патлумачыў прычыну адсутнасці гаспадара свята Міхаіла Саўчанкі -- консула Беларусі ў Эстоніі, які, дарэчы, падтрымаў ідэю аб'яднання і актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі данай імпрэзы. Магчыма, на той самы момант ён якраз атрымаў "вольную" ад пасады. Але ці адначасова гэта вызваляе яго і ад абавязкаў быць беларусам, бараніць сваю годнасць і гонар дзяржавы?!

Больш таго, чамусьці засталіся на вечарыне незаўважанымі і ганаровыя госці. Апрача тых, хто падымаўся на сцэну, не былі прадстаўлены публіцы ні паслы сяброўскіх краін, ні іншыя прадстаўнікі нацменшасцяў і ўрадавых устаноў, прысутныя ў зале. Ці не можа здарыцца так, што наступным разам і наогул ніхто не прыйдзе? Шкада, што этыкет, якому надавалі шмат увагі нашы продкі, — сёння для беларусаў паняцце амаль невядомае, як і яго састаўляючыя: дакладнасць і пунктуальнасць.

Некалі быў спынены рух наперад, страчана сувязь пакаленняў, забыліся традыцыі, адмерла частка нашых каранёў. Апошнім часам усё часцей даводзіцца чуць, што такой нацыі, як беларусы, ніколі не існавала, а ўсё, што мы маем, належыць або Расіі, або Польшчы. Нават украінцам. Спадар Ю.Алененка, пасол Украіны, пачуўшы песню "Цячэ вада ў ярок" у выкананні сяброў "БЭЗу", усклікнуў: "Якая ж гэта беларуская песня? Цэ ж наша, украінская, толькі спяваюць яе ў беларускім вымаўленні".

Дык хто ж мы ёсць? Хіба ў нас нічога свайго не засталося? Або мы ўсе, як тыя кінагероі з мексіканскіх фільмаў, хворыя на амнезію і наш лёс -- бяспамяцтва?

Але на сцэну выходзяць "Крупіцкія музыкі". Гукі пастуховай трубы ўрываюцца ў залу, як быццам гаворачы: "Прачніцеся, мы -- жывыя". А далей... Рассыпаюцца і спаборнічаюць між сабой то паліхвацкія, то задумліва-лірычныя мелодыі, ззяе рознакаляровымі фарбамі вянок беларускіх народных песень, якія чаруюць і вабяць незвычайнай прыгажосцю. Ну а мелодыя, якую выдаюць скрыпачкі, пранікае вам у душу і робіць з ёю нешта неверагоднае, хвалюючы і абуджаючы.

(Цікава, што далей Смаленска скрыпачку сярод фальклорных інструментаў не сустрэнеш). Тут знайшлі свой голас даўно забытыя старажытная басэтля, колавая ліра, дуда. А тое, як грае звычайная жытнёвая саломіна, падаецца сапраўдным цудам. На сцэне не проста артысты ў народных строях, якія імкнуцца данесці да сучаснікаў згадкі пра гісторыю і культуру сваёй старажытнай краіны, якія даюць адчуць нацыянальны характар і душу беларуса. Уражанне такое, што на сцэне гістарычныя постаці, якія працягваюць нам свае рукі і кажуць: "Мы імкнуліся да таямніцы велічы і прыгажосці. Мы вызначаліся стойкасцю і дабрынёй, спагадай і працавітасцю, творчым дарам і гумарам. Мы гэтае зведалі, дык жывіце гэтым і вы. І, ведайце, вы -- моцныя, і моц ваша ў вашым аптымізме, у вашым вечным руху наперад..."

Гэтыя хлопцы і дзяўчаты з вёскі Крупіца, што на Міншчыне, якія чэрпаюць скарб народнага мастацтва з самых вытокаў бацькоўскай зямлі, дзякуючы свайму кіраўніку, які абышоў шмат вёсак і вёсачак у розных кутках Беларусі, запісваючы ад старажылаў непадобныя ні на якія іншыя ў сваёй красе беларускія песні і найгрышы ледзь не страчанай даўніны, уздзейнічаюць на нашу падсвядомасць, абуджаюць памяць, а з ёю годнасць і гонар за сваю краіну. Здаецца, у Галандыі (а гурт аб'ехаў ледзь не ўсю Еўропу), калі знаёміліся з Беларуссю праз "Крупіцкіх музыкаў", было адзначана нават у прэсе, што тут ніколі сабе не ўяўлялі, што паміж Польшчай і Расіяй існуе іншая адметная еўрапейская культура. Хіба гэта не сведчыць аб самабытнасці, спрадвечнасці і жывучасці беларускага мастацтва?

І я не памылюся, калі скажу, што гэта адчулі ўсе ў зале і іншымі вачыма глянулі на беларусаў. Іншымі вачыма глянулі нарэшце на сябе і беларусы. Яны адчулі сваю прыналежнасць да той некалі вялікай зямлі, адчулі, нарэшце, гонар за дзяржаву. На вачах у людзей былі слёзы. Гэта былі слёзы крыўды за сваё бяспамяцтва і адначасова слёзы радасці. Быў час яднання і нітавання з Бацькаўшчынай. Адна спадарыня, да якой я падышла, толькі і змагла, што вымавіць: "Мой родны кут, як ты мне мілы!.."

Назіраючы за грамадой, за носьбітамі нашага мастацтва — "музыкамі", якія ў штодзённым жыцці толькі ці то проста настаўнік, ці проста бібліятэкар, ці студэнт, я падумала, што мы ёсць нацыя, пачуццё прыналежнасці да якой яе грамадзян знаходзіцца пакуль на ўзроўні падсвядомасці і ляжыць недзе яшчэ на дне душы. Трэба прайсці доўгі шлях пазнання, каб даведацца нарэшце, хто ж мы ёсць. І каб прайсці яго з меншымі стратамі, акрамя нашых уласных намаганняў, тут шмат што залежыць ад урада. Таму без пункту гледжання прадстаўнікоў міністэрстваў Эстоніі і Беларусі нататкі выглядалі б няпоўнымі.

**Алар ОЯЛА**, супрацоўнік Міністэрства культуры Эстоніі:

-- У Эстоніі жыве каля ста народнасцей, і з усімі мы імкнемся супрацоўнічаць. Два разы на год з бюджэту выдзяляецца дапамога -- 1 мільён крон (1 долар -- 12 крон). Гэта не так і мала. У першую чаргу яна размяркоўваецца паміж тымі, хто робіць канкрэтную справу: мы падтрымліваем нядзельныя школкі, мастацкую самадзейнасць, кантакты з Радзімай, набыццё літаратуры і г.д. Наконт сённяшняй імпрэзы хачу адзначыць, што мяне вельмі ўразіў гурт з Беларусі. Я быў на розных фальклорных фестывалях і цяпер вельмі рады пазнаёміцца з сапраўднай беларускай народнай творчасцю.

**Тадэвуш СТРУЖЭЦКІ**, супрацоўнік Міністэрства культуры і друку Беларусі:

-- Сёння патрэбен комплекс мер для падтрымкі сувязей з нашымі суайчыннікамі за межамі Бацькаўшчыны, а таксама юрыдычныя дакументы, якія замацавалі б механізм гэтых сувязей і дапамогу. Тут зноў усё ўпіраецца ў сродкі, а таму дзяржава павінна быць зацікаўлена ў стварэнні моцных каардынуючых цэнтраў, праз якія можна весці сваю мэтанакіраваную палітыку фарміравання эканамічных, культурных сувязей, рэкламаваць нашы дасягненні ў свеце. Тут ёсць і яшчэ адзін бок. На маю думку, нашы найбольш актыўныя свядомыя беларусы маглі б быць актывам нашых ствараемых консульстваў і пасольстваў. Напрыклад, кіраўнік добрай беларускай суполкі, якая займаецца праблемамі культуры, можа быць аташэ па культуры нашага пасольства ў нейкай краіне. Гэта вельмі істотна, калі мы ў сілу эканамічных цяжкасцей не можам мець там вялікі штат. Такія сувязі, па-першае, будуць ствараць добры імідж у падтрымку дзяржаўнасці на пачатку работы нашых прадстаўніцтваў за мяжой. Па-другое, гэта своеасаблівая адзнака і павага да працы нашых замежных суайчыннікаў. На жаль, да гэтага часу вельмі часта прадстаўнікі нашага ўрада, калі траплялі за мяжу, нават не лічылі сваім абавязкам наведаць беларускія суполкі. Гэта ўспрымаецца апошнімі як абраза. У нас павінна быць мэтанакіраваная палітыка, якая б грунтавалася на дакладных накірунках дзейнасці, якія будуць пашырацца. Вось тады гэта будзе ўплываць і на ўмацаванне аўтарытэту дзяржавы ў свеце.

Што ні кажы, а свята атрымалася выдатным. Але, як заўсёды, пасля свята надыходзяць будні. Каб не разбурылася пачуццё еднасці, створанае "Крупіцкімі музыкамі", кожны зараз павінен вызначыць для сябе свой удзел у агульнай працы. У гэтым выпадку справа абавязкова зрушыцца. Ну а як усё адбудзецца на самай справе, вызначыць час.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ І АЧАРНЕННЯ

# ЯК СЛУЧАКІ БАРАНІЛІ СВОЙ ДОМ

## НЯЗГОДА

Пасля адыходу чырвоных жыццё ў горадзе пакрысе наладжвалася. Па загаду акупацыйных улад пачало дзейнічаць гарадское грамадскае самакіраванне, але члены яго адразу прызналі прыярытэт Нацыянальнага камітэта. Праблем хапала. Колькасць жыхароў горада і павета ўзрасла ў шмат разоў. На Случчыне асела не менш як пяць тысяч дэзерціраў з Чырвонай Арміі. Адусюль сцякаліся афіцэры і жаўнеры -- дзянікінцы, балахоўцы і інш. Атмасфера напалялася. Разгараліся палітычныя страсці. Ад Нацыянальнага камітэта патрабавалі ўзначаліць арганізацыю абароны Случчыны. З аднаго боку, раздаваліся галасы аб стварэнні новых балахоўскіх атрадаў, з другога -- самастойных фарміраванняў няхай сабе і ў кантакце з Булак-Балаховічам.

Першыя спадзяваліся на дапамогу Польшчы. У невялікай колькасці, але ж былі сярод іх прыхільнікі дзяржаўнага саюза з заходняй суседкай. Большасць гэтай плыні мела надзею, праўда, даволі хісткую, адносна прыстойных паводзін Польшчы ў вырашэнні беларускіх праблем. Тым больш, што першым у сваёй прыязнасці запэўніў беларусаў начальнік Польскай дзяржавы Ю.Пілсудскі: "...Хачу вам даць магчымасць развіваць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы, гэдак, як самі таго захочаце, без ніякага гвалту або націску з боку Польшчы". Відавочна, што польскі дзяржаўны кіраўнік дыпламатычна абяцаў Беларусі культурна-нацыянальную аўтаномію, а не палітычны суверэнітэт. Але хто моцна жадаў, той тлумачыў гэты "мамарандум" на сваю карысць.

Паводзіны палітыкаў, якія спрабавалі разыграць польскую карту, можна зразумець. Яны лічылі, што Польшча нядаўна цяжкім шляхам барацьбы набыла незалежнасць і зацікаўлена ў тым, каб мець буфер -- тэрыторыю самастойнай Беларусі -- паміж сабою і чырвонаю Масквою. "Камітэт (новы склад. -- **Н.С.**) звярнуўся з просьбай аб дапамозе да таго народа, які толькі нядаўна сам здабыў сабе вольнасць, да народа, які таксама змагаўся з бальшавікамі, што хацелі пазбавіць яго гэтай вольнасці, да народа, які вуснамі свайго нацыянальнага правадыра загаварыў з беларускім народам як з роўным", разважалі прыхільнікі паланафільскага накірунку.

Другая групоўка, а гэта ў асноўным эсэры, стаяла на цвёрдых незалежніцкіх пазіцыях -- "супраць паноў і камуністаў".

Гэтае супрацьстаянне лідэраў і арганізатараў паўстання самым негатыўным чынам паўплывала на ход падзей. Толькі згода беларускіх дзеячаў, якія рабілі вялікую палітыку ў тыя часы, магчыма, прынесла б станоўчыя вынікі.

Між тым абедзве групоўкі патрабавалі ад Нацыянальнага камітэта пэўных палітычных дэкларацый. Старшыня камітэта Павел Жаўрыд выехаў у Варшаву з мэтай атрымаць кансультацыі Найвышэйшай Рады. Сустракаўся з Тарашкевічам, Дубейкоўскім, Смолічам, якія рэкамендавалі ўзяць ініцыятыву фарміравання вайсковых часцей у свае рукі. У той час Найвышэйшая Рада на перамовы з Булак-Балаховічам не ішла, хаця генерал гэтага дабіваўся. Палітычную кан'юнктуру Рада лічыла спрыяльнай для абвяшчэння самастойнай рэспублікі, яна спадзявалася на падтрымку Польшчы, лозунгам якой аб роўнасці народаў яна яшчэ верыла.

Пэўная частка случакоў мела намер стварыць з Булак-Балаховічам адзіны антыбальшавіцкі фронт і актыўна дзейнічала ў гэтым накірунку. Паланафільцы са слуцкім доктарам Арсенем Паўлюкевічам на чале вырашылі абнавіць склад незгаворлівага Нацыянальнага камітэта. Для дасягнення гэтай мэты 5 лістапада склікалі сход случакоў. Зацікаўленых сабралася каля 500 чалавек. Уладзімір Пракулевіч і Станіслаў Петрашкевіч прыйшлі на сход у той самы момант, калі выбары новых членаў у склад Нацыянальнага камітэта былі завершаны. Яны паспяшаліся аб'явіць пратэст незаконным дзеянням паланафільскага крыла. Толькі з'езд Случчыны меў права змяніць склад камітэта. Тым не менш, у той жа дзень у памяшканні Нацыянальнага камітэта з'явіліся выбраныя сходам асобы: Паўлюкевіч, Мацелі, Кабычкін, Раковіч, Анцыповіч. Яны патрабавалі прызнання сваіх паўнамоцтваў. Старыя члены камітэта былі вымушаны згадзіцца на каапцацыю трох новых членаў, якія атрымалі на сходзе большасць галасоў. Такім чынам, у склад увайшлі Паўлюкевіч, Мацелі і Раковіч. Новыя члены адразу пачалі патрабаваць абмеркавання злабадзённых пытанняў: аб адносінах да Польшчы, неабходнасці стварэння ўласных узброеных сіл і народнай міліцыі. Міліцыя, дарэчы, ужо існавала, яна была арганізавана ў асноўным намаганнямі паручніка Мацелі і актыўна дзейнічала ў правінцыі, адкрывала вярбовачныя пункты. Былы склад Нацыянальнага камітэта не пажадаў прызнаць генерала Булак-Балаховіча як галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі. 7 лістапада У.Пракулевіч, С.Петрашкевіч, Н.Смольскі выйшлі са складу ўзноўленага камітэта. Улас Дубіна застаўся і нейкі час падтрымліваў блок Паўлюкевіча-Мацелі.

Між тым, у Слуцк прыехалі члены ранейшага складу Нацкамітэта -- эсэры Васіль Русак, Сяргей Бусел, Марк Асвяцімскі. Пагадненне з новым саставам не адбылося. Старыя члены пачалі працаваць ва ўмовах амаль канспіратыўных. Непаразуменні паміж групоўкамі паглыбляліся.

**Працяг.**
**Пачатак у № 50— 52.**

## ЗДРАДНІК ЦІ АХВЯРА АБСТАВІН?

У гісторыі Слуцкага паўстання здрада Паўла Чайкі -- камандзіра Слуцкага палка -- факт даволі вядомы. Ён перашкаджае трымаць апавяданне аб славутай падзеі на высокай узнёслай ноце. Здрада -- з'ява заўсёды прыкрая, якімі б матывамі ні была выклікана. Першы камандзір Слуцкага палка, чалавек, якому было даручана фарміраванне гэтай баявой адзінкі, і здрадзіў! Чаму так здарылася? Простая канстатацыя факта не задавальняе. Трэба аб'ектыўна прааналізаваць гэты выпадак і, галоўнае, у сувязі з падзеямі і абставінамі.

**Ніна СТУЖЫНСКАЯ.**

НАВІНЫ З ВІЛЬНІ

# ГУЧАЛІ ПЕСНІ

У снежні мінулага года ў Вільні на старажытных могілках Роса адбылося адкрыццё надмагільнага помніка беларускаму кампазітару і вядомаму грамадскаму дзеячу ў даваенны час Альбіну Стэповічу. Помнік устаноўлены побач з магілаю ягонага брата -- вядомага беларускага паэта Казіміра Сваяка (Стэповіча). І калі імя апошняга добра вядома кожнаму яшчэ са школьнай праграмы па беларускай літаратуры, то імя Альбіна Стэповіча доўгі час было ў забыцці. Толькі некаторыя навукоўцы ведалі пра яго і трымалі ў руках яго зборнік песняў з нотамі "За Бацькаўшчыну", выдадзены ў даваеннай Вільні. Альбін Стэповіч актыўна ўдзельнічаў у беларускім адраджэнскім руху, выкладаў музыку ў Віленскай беларускай гімназіі. Памёр ён маладым, у 1934 годзе. 18 снежня якраз споўнілася 60 гадоў гэтай сумнай падзеі, да гэтай даты і была прымеркавана ўстаноўка помніка.

Але трэба сказаць, што зробленая справа не была такой ужо простай: час зруйнаваў сляды даўнішняга пахавання вядомага ў свой час чалавека. І толькі стараннямі Алены Глагоўскай, гісторыка з Гданьска, было высветлена месца знаходжання магілы Альбіна Стэповіча і ўзнікла прапанова ўстанавіць гэты помнік. Ініцыятыву падтрымалі віленскія беларусы, і іхнімі клопатамі справа была даведзена да завяршэння. Сродкі на выраб помніка ахвяравалі яго пляменнікі, што жывуць у Гданьску і з якімі А. Глагоўская разам клапацілася аб тым, каб узнавіць імя Альбіна. Свой сціплы ўклад зрабіла і Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Ва ўрачыстасцях на Росах прынялі ўдзел віленская беларуская грамада, прадстаўнік беларускага пасольства ў Літве Уладзімір Шчасны, а таксама госці з Гданьска -- Алена Глагоўская, пляменнікі Стэповічаў -- Эдмунд і Вітаўт-Юры (сыны Сцяпана і Янкі Стэповічаў, якія былі роднымі братамі Альбіна і Казіміра), а таксама журналістка з гданьскага радыё Ганна Сабэцкая. З Мінска прыехалі прадстаўнікі ЗБС "Бацькаўшчына" -- прэзідэнт Радзім Гарэцкі і старшыня Рады Ганна Сурмач.

Пасля цырымоніі на могілках імпрэза была прадоўжана ў памяшканні, што займае беларускі клуб "Сябрына", пад кіраўніцтвам Валянціна Стэха. В. Стэх уклаў у гэта мерапрыемства многа ўласных стараннямў і ладзіў яго з дапамогаю Людвікі і Сяржука Вітушкаў, Мірагаславы Русак і іншых віленчукоў. Алена Глагоўская падрабязна распавяла аб сваіх даследчыцкіх пошуках звестак пра дзейнасць Альбіна Стэповіча. З успамінамі пра дзядзьку выступілі сп. Вітаўт-Юры і Эдмунд Стэповічы. Сп. Юры прыехаў у Вільню з сынам Маркам, а сп. Эдмунд -- з унукам Артурам, якія з вялікай цікавасцю ўспрымалі ўвесь ход падзеі.

Хацелася б адзначыць, што Алена Глагоўская -- не толькі дасціпны навуковец, але і грамадска актыўны чалавек. Яна ўзначальвае ў Гданьску беларускую суполку "Хатка". Гданьскія беларусы маюць свой музычны цэнтр -- калектыў "Жаваронкі", частка якога ў складзе вакальнага трыю таксама прыехала ў Вільню і выступала на вечарыне. Гучалі песні Альбіна Стэповіча, некаторыя з іх былі на словы кампазітара.

Хацелася б адзначыць, што прыезд цэлай групы гданьскіх беларусаў у Вільню стаў магчымым дзякуючы фінансавай дапамозе з боку беларускага кансулату ў Гданьску, найперш яго кіраўніка сп. Шахновіча.

Улетку, калі ў Вільні праходзіла першая сустрэча беларусаў краін Балтыі, прадстаўнікі беларускай суполкі з Гданьска, хоць і былі запрошаны на гэтае свята, прыняць удзел у ім не змаглі па розных важных прычынах. І гэты іх прыезд у Вільню з нагоды адкрыцця помніка Альбіну Стэповічу, чыё імя цяпер так цесна лучыць віленскіх і гданьскіх беларусаў, успрымаўся ўсімі прысутнымі як прадаўжэнне сустрэч беларусаў Балтыі. Гэтыя шчырыя сяброўскія кантакты будуць спрыяць лучнасці беларусаў у Балтыйскім рэгіёне дзеля ўзаемнай карысці.

Такім чынам, агульнымі намаганнямі беларусаў Вільні, Гданьска, Мінска была зроблена яшчэ адна добрая справа: ушанавана памяць і ўзноўлена імя аднаго з актыўных дзеячаў беларускага адраджэнскага руху -- Альбіна Стэповіча.

**Ганна СУРМАЧ.**



**Мястэчка Гальшаны, што ў Ашмянскім раёне, існуе з 1280 года. Тут многае нагадвае цяпер аб гісторыі і культуры продкаў, багатай прыгажосцю даўніне. А вядомы нават у Еўропе касцельны ансамбль у стылі барока пабудаваны графам Паўлам-Стэфанам Сапегам у 1618 годзе. Роўныя гэтай пабудове ёсць толькі дзве: адна -- у Польшчы, другая -- у Іспаніі. Але там яны захоўваюцца ў належным стане. А ў Гальшанах толькі нядаўна пачалі рэстаўрацыю і рамонт занядбанага, але унікальнага касцельнага ансамбля, у якім толькі алтароў -- восем.**

**Памяшканне расчышчана ад завалаў, ужо адноўлены многія рэдкія іконы і фрэскі, што дазволіла ў апошнія гады ў гэтым касцёле, што належыць ордэну францысканцаў, весці святочныя набажэнствы.**

**НА ЗДЫМКУ: так выглядае цяпер інтэр'ер старадаўняга касцёла Святога Яна Хрысціцеля.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

СЛОВА СЯБРАМ МАБ

# БЕЛАРУСКІ ЗБОРНІК З ОЛЬШТЫНА

Вышэйшая педагагічная школа ў Ольштыне, як і некаторыя навуковыя ўстановы Любліна, Варшавы, Вроцлава і Познані, традыцыйна лічацца адным з галоўных цэнтраў даследаванняў у галіне беларусістыкі, літуаністыкі і ўкраіністыкі ў Польшчы. Таму нездарма ў ёй створана кафедра ўсходняе славяншчыны. На ёй плённа працуюць філолагі і гісторыкі, якія, дарэчы, падтрымліваюць сталыя карысныя кантакты як з беларускімі, украінскімі і літоўскімі асяродкамі, што дзейнічаюць на польскім Памор'і, так і з навуковымі ўстановамі ў адпаведных краінах.

Адным з вынікаў гэтай дзейнасці стаўся зборнік навуковых матэрыялаў пад агульнай назвай "W kregu kultury bialoruskiej" ("У крузе беларускай культуры"), Ольштын, 1994 г., пад рэдакцыяй Валянціна Пілата. Дарэчы, два артыкулы гэтага зборніка належаць пяру беларускіх даследчыкаў, навуковых супрацоўнікаў Скарынаўскага цэнтра -- прафесару Уладзіміру Конану і Ігару Бабкову.

Артыкул У.Конана "Францішак Багушэвіч. Некалькі фактаў з жыцця і творчасці пісьменніка" з'яўляецца па сутнасці кароткай біяграфіяй Ф.Багушэвіча, якая вельмі адмыслова набліжае польскаму чытачу постаць пачынальніка беларускай класічнай літаратуры.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

281

**АНТЫСАВЕЦКІЯ НАСТРОІ.** Расла незадаволенасць і ў народзе. Колькі ўжо разоў паміж Дняпром і Бугам пракаціліся з 1915 года варожыя войскі. Спачатку нямецкія, потым бальшавіцкія, за імі польскія і нарэшце -- зноў бальшавіцкія. І кожны раз гэтыя ваенныя зграі прасавалі мірныя пасевы, рабавалі і абражалі цывільнае насельніцтва. Чарговы прыход бальшавікоў у 1920 годзе з іх харчразвёрсткай стаў той апошняй кропляй, якая перапоўніла народнае цярпенне. Людзі не маглі змірыцца, што прыйшлі чужынцы і падзялілі іх паміж сабой, як быдла. Сваякі, сябры, маладухі і жаніхі апынуліся па абодва бакі мяжы. А таму ўзброеная барацьба беларускага народа за незалежнасць і пачалася там, дзе панавалі маскоўскія захопнікі, ды пераважна на савецкім пагранічча. Польская акупацыйная адміністрацыя гэтай барацьбы не падтрымлівала, але асабліва і не перашкаджала ёй.

Змаганне з бальшавіцкімі акупантамі вялося пераважна пад сцягам БНР, але адзінага кіруючага цэнтра ў паўстанцаў не было. Урад Народнай Рады БНР Ластоўскага знаходзіўся далёка ў Каўнасе. А ўрад Найвышэйшай Рады БНР фактычна апынуўся без аўтарытэтнага лідэра. Антон Луцкевіч не належаў да правадыроў тыпу Рабесп'ера ці Леніна. Ён адвяргаў усялякі гвалт і прызнаваў толькі цывілізаваныя метады барацьбы. Не было адзінства і ў поглядах на тактыку барацьбы і на выбар саюзнікаў у гэтай барацьбе.

**ВЫСТУПЛЕННЕ БУЛАК-БАЛАХОВІЧА.** Найбольш таленавітым важаком народнага анты-

282

бальшавіцкага супраціўлення з'яўляўся Станіслаў Булак-Балаховіч, былы аграном з Віленшчыны, які падчас першай сусветнай і грамадзянскай войнаў прайшоў шлях ад ротмістра царскай арміі да генерал-маёра ў войску М.Юдзеніча. Пасля адступлення ў Эстонію Булак-Балаховіч стварыў конны аддзел добраахвотнікаў, пераважна з беларусаў, і далучыўся да эстонскага войска.

У гэты час у Латвіі і Эстоніі пачынае працаваць вайскова-дыпламатычная місія БНР, якую ачольваў палкоўнік Кастусь Езавітаў. Пад яго ўплывам Булак-Балаховіч пераходзіць на службу БНР. А ў сакавіку 1920 года 2-тысячны Беларускі аддзел "Бацькі", абмундзіраваны ў спецыяльную форму войска БНР, перадыслакуецца з дазволу польскага ўрада ў раён Пінска. Булак-Балаховіч прымае польскую дапамогу ды шукае хоць бы часовых саюзнікаў. У жніўні ўдаецца заключыць дамову з лідэрам рускіх эсэраў Б.Савінкавым, які ў той час узначальваў Рускі палітычны камітэт у Польшчы. Узамен на эсэраўскія вайсковыя фарміраванні генерал згаджаецца фармальна падпарадкоўвацца расійскаму палітычнаму лідэру. Адначасова ідзе актыўны пошук добраахвотнікаў.

У верасні Булак-Балаховіч прарывае фронт Чырвонай Арміі і вызваляе Пінск. Бальшавіцкая харчразвёрстка дужа спрыяла колькаснаму росту паўстанцкай арміі. На пачатак лістапада 1920 года яна налічвала каля 20 тысяч чалавек. Генерал ішоў па пятах адступаючых чырвонаармейцаў, планаваў прарваць фронт каля Мазыра і рушыць на Смаленск. Але тут уступіла ў сілу

283

польска-савецкае перамір'е 12 кастрычніка 1920 года. У адпаведнасці з ім, усе антысавецкія злучэнні на тэрыторыях, падкантрольных Польшчы, мусілі быць распушчанымі. У пачатку лістапада палякі пачалі пакідаць раёны, якія па дамоўленасці адыходзілі Саветам. Тады ж яны раззброілі бронецягнік і батарэю цяжкай артылерыі, што належалі Булак-Балаховічу. Але ён не збіраўся складваць зброю. 8 лістапада "Бацька" вызваляе Петрыкаў, 10-га -- Мазыр, 17-га -- Рэчыцу. У Мазыры ён адкрывае свае сапраўдныя планы. Перадае камандаванне "Рускай добраахвотнай арміяй" свайму брату -- палкоўніку Язэпу Булак-Балаховічу, аб'яўляе ковенскі ўрад Ластоўскага самазваным, а сябе абвяшчае начальнікам Беларускай дзяржавы і выдае загад аб фарміраванні Беларускага войска. Ставіцца мэта стварыць Незалежную Беларускую Дзяржаву. На пост беларускага прэм'ер-міністра прэтэндуе Паўла Аляксюк, які прадстаўляў пры генерале Беларускую Вайсковую Камісію Найвышэйшай Рады БНР.

На працягу тыдня фарміруецца Сялянскі партызанскі аддзел і вайсковы полк. Але сілы былі няроўнымі. Балахоўцы здавалі бальшавікам горад за горадам і 22 лістапада толькі і змаглі што прабіцца на тэрыторыю польскай акупацыі, дзе і былі інтэрніраваны. Такім чынам, не суджана было "Бацьку" выканаць для Беларусі ролю Пілсудскага. У тых умовах яго памкненні былі навеяны рэвалюцыйным рамантызмам. Але яны сведчылі пра жывучасць беларускай ідэі. Змагаючыся з бальшавіцкімі захопнікамі, беларускі генерал часам супрацьпастаўляў ся-

284

бе БНР, дзейнічаў на свой страх і рызыку, не пазбег і памылак. Вядома, што яго вайсковыя часці, пераважна аддзелы рускіх эсэраў, дазвалялі сабе яўрэйскія пагромы. За жорсткасць Булак-Балаховіча асуджаў і Антон Луцкевіч. Але антысемітызм не з'яўляўся лозунгам балахоўцаў. Дастаткова сказаць, што ў складзе паўстанцкай арміі "Бацькі" ваяваў яўрэйскі эскадрон паручніка Цэйтліна. Пасля вайны беларускі генерал асталяваўся ў Белавежы, дзе займаўся дрэваапрацоўчай прамысловасцю, а ў маі 1939 года загінуў у Варшаве, змагаючыся з фашысцкімі захопнікамі.

**СЛУЦКАЕ ПАЎСТАННЕ.** Яркай старонкай барацьбы беларускага народа за дзяржаўную незалежнасць стала Слуцкае паўстанне. І зусім не выпадкова, што яно выбухнула менавіта на слуцкай зямлі. Якраз тут, у Слуцку, у 1917 годзе пачала працаваць першая беларуская гімназія на Беларусі, у якой выкладаў Радаслаў Астроўскі, будучы прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады 1944 года. Беларускі нацыянальны камітэт Случчыны ў 1919 годзе вёў актыўную культурна-асветную і кааператыўную працу. У ліпені 1920 года яго разагналі бальшавікі. Але з іх адступленнем увосень таго ж года камітэт выйшаў з падполля і ўзяў уладу на Случчыне ў свае рукі. На дамах віселі бел-чырвона-белыя сцягі, па вуліцах хадзіла беларуская міліцыя. Па валасцях ствараліся камітэты самакіравання. Палякі глядзелі на ўсё гэта скрозь пальцы, бо па дагавору ад 12 кастрычніка Слуцкі павет перадаваўся бальшавікам.

14--15 лістапада 1920 года адбыўся І бела-

Захар ШЫБЕКА

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

285

рускі з'езд сялянскіх прадстаўнікоў Случчыны ў ліку 107 асобаў. Найбольшы ўплыў на ім мелі беларускія эсэры. Дэлегаты прынялі рэзалюцыю, у якой прызналі ўладу БНР, віталі "сястру Польшчу", а савецкі ўрад Кнорына характарызавалі як самазваны. Тым не менш, гучаў і заклік: "Няхай жыве братэрства ўсіх славянскіх народаў!" З'езд абраў Раду Случчыны БНР у складзе 17 чалавек на чале з У.Пракулевічам, якой перадаў уладу і даручыў фарміраванне войска. Удалося сабраць каля 10 тысяч добраахвотнікаў. Яны склалі 1-ю Слуцкую брыгаду стралкоў войска БНР пад назвай "Зялёны Дуб". Рада Случчыны паслала Белрэўкому пратэст супраць падзелу незалежнай і непадзельнай БНР і супраць намераў бальшавікоў увесці на іх тэрыторыю Чырвоную Армію. Але наступленне Саветаў не ўдалося прадухіліць. Яно пачалося ў лістападзе 1920 года. Насельніцтва падтрымлівала паўстанцаў. І яны змагаліся за незалежнасць Случчыны і БНР амаль два месяцы. Аднак перавага была на баку рэгулярнай арміі Саветаў. 28 снежня апошнія атрады паўстанцаў перайшлі на другі бок ракі Лань, дзе іх сустрэлі польскія жаўнеры і інтэрніравалі. Пазней слуцкія паўстанцы крыўдзіліся на Польшчу, якая амаль ніяк іх не падтрымала.

**ІНШЫЯ СЯЛЯНСКІЯ ПАЎСТАННІ.** Слуцкае паўстанне не было адзіным на Беларусі. Яшчэ ў ліпені 1920 года сяляне аб'явілі Койданаўскую Незалежную Рэспубліку і пратрымаліся 4 дні. Лакальныя антысавецкія паўстанні пад

286

кіраўніцтвам пераважна беларускіх эсэраў праходзілі ў Ігуменскім і Бабруйскім паветах. Было паўстанне прызыўнікоў у Смаленску, паўстанне Мінскага гарнізона пасля бурнага мітынгу ў гарадскім тэатры. Буйныя антысавецкія выступленні на глебе рэквізіцый і мабілізацый адбыліся ў Аршанскім, Барысаўскім і Гомельскім паветах. Беларускія эсэры ўплывалі на стыхійны народны рух за незалежнасць праз кааператыўныя арганізацыі, дзе яны займалі кіруючыя пасады. У кастрычніку 1920 года да старшыні Белрэўкома А.Чарвякова прыйшла зводка ад павятовых камісараў, якія дакладвалі, што "насельніцтва валасцей, даведаўшыся пра самавызначэнне Беларусі, не хоча прызнаваць ніякай улады, акрамя ўрада незалежнай Беларусі, і ставіцца вельмі варожа да арганізуемых валасных рэўкомаў, заяўляючы, што ўладу трэба выбіраць, а не назначаць з Масквы". Чужынцаў, што прыехалі ў абозе Чырвонай Арміі, сяляне вымушалі ратавацца ўцёкамі, а самі выбіралі свае органы самакіравання. Так, напрыклад, было ў Беларуцкай, Халопеніцкай, Валасевіцкай валасцях Барысаўскага павета.

**УЦІХАМІРВАННЕ БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСТВА.** Вытраўляць нацыянальную годнасць з нашага народа бальшавікі пачалі ўжо ў 1920 годзе пад кіраўніцтвам Леніна і пры маўклівай бездапаможнасці нацыянал-камуністаў. Больш таго, гэтыя камуністы самі жорстка душылі народныя паўстанні. І пад канец 1920 года адкрытая нацы-

287

янальна-вызваленчая барацьба згарнулася ды пераліласяў партызанскі рух. У савецкіх улад не хапала чыгуначных вагонаў, каб вывозіць арыштаваных у халодную Сібір. Гэта быў змрочны час у нашай гісторыі.

**ЦАНА ВЫХАДУ З ВАЙНЫ.** У лістападзе-снежні 1920 года ў Мінску праходзіў III з'езд КП(б)Б. Ён дзякаваў "рускаму народу" за падзел Беларусі і за задушэнне народнага нацыянальна-вызваленчага руху ды назначыў ад імя Масквы новую адміністрацыю. Яе ўзначаліў нацыянал-камуніст А.Чарвякоў, які аб'яднаў у сваіх руках пасады старшынь ЦВК і СНК Беларусі. Як і трэба было чакаць, мірны дагавор падпісваўся ў Рызе 18 сакавіка 1921 года зноў без удзелу беларускай дэлегацыі нават марыянетачнага ўрада, не кажучы ўжо пра прадстаўнікоў урада БНР. І гэты дагавор толькі пацвердзіў папярэднюю дамоўленасць Расіі і Польшчы аб падзеле паміж сабой Беларусі і Украіны. Урад БНР не прызнаў Рыжскі мір абавязковым для беларускага народа і абвясціў, што гэты народ будзе змагацца за сваю незалежнасць і непадзельнасць да канца. Чарвякоў жа маўчаў, хоць яшчэ пяць месяцаў назад (кастрычнік 1920) запэўніваў прадстаўнікоў БНР у Рызе, што савецкі беларускі ўрад "на падзел Беларусі не згодзіцца".

Няўцешны вынік вірлівых падзей 1919--1920 гадоў быў непазбежным. Смяротны прыгавор Беларускай Народнай Рэспубліцы фактычна быў вынесены яшчэ ў Версалі.

288

## 29. БАЛЬШАВІЦКІ ГЕНАЦЫД 30-х ГАДОЎ НА БЕЛАРУСІ

Свет жахнуўся, калі даведаўся аб сталінскіх злачынствах. Бальшавіцкая дзяржава займалася татальным вынішчэннем сваіх падданых, потым чамусьці рэабілітавала іх. Няўжо пакараныя і сапраўды былі ні ў чым невінаватыя? Няўжо яны падтрымлівалі дзяржаву-вампіра, пагаджаліся з яе палітыкай і пакорліва клалі галовы на плаху? І ці не таму бальшавіцкая ўлада адпускала грахі сваім ахвярам, што хацела найперш абяліць саму сябе?

### 29.1. Узмацненне жорсткасці маскоўскага рэжыму

**СУД НАД ЛІСТАПАДАЎЦАМІ.** Усе беларускія нацыянальныя дзеячы былі ўзяты на ўлік у БССР загадзя, яшчэ ў 1924 годзе. А ў сакавіку 1926-га ў Мінску прайшоў судовы працэс над антысавецкай арганізацыяй Юркі Лістапада. Былы ўдзельнік Слуцкага паўстання разам з іншымі настаўнікамі Случчыны расклейваў антысавецкія ўлёткі, пашыраў нелегальную літаратуру, заклікаў сялян змагацца супраць бальшавікоў, якія распальвалі звярыную класавую варожасць сярод беларусаў.

Тады ўлады яшчэ баяліся расстрэльваць і далі кіраўніку антысавецкага падполля ўсяго 5 гадоў турмы.

*ДА 230-годдзя Міхала Клеафаса АГІНСКАГА*

# ВЯЛІКІ ГРАМАДЗЯНІН І ТВОРЦА

Шаноўны чытач! Разлічваючы на тваю ўвагу да гісторыі роднай зямлі і зацікаўленасць у адраджэнні нашай культуры, запытаюся: што для цябе наша мінулае? Чыстая дошка ці багатае падзеямі жыццё, у якім было месца й выдатным асобам? Упэўнена, што вызначыш апошняе. Таму гэты артыкул -- для цябе, уважлівы ды й беражлівы да нашай спадчыны.

"Самыя знакамітыя роды ў Польшчы паходзяць пераважна з Літвы. Чартарыскія, Радзівілы, Агінскія, Сапегі, Тышкевічы, Пацы, Сангушкі -- гэта ліцвіны... Паходзячы з ліцвінскага роду, я нарадзіўся ў Польшчы". Гэтыя словы належаць Міхалу Клеафасу Агінскаму. Нават той, хто ніколі не вучыўся музыцы, ведае яго паланез ля-мінор. "Ёсць мелодыі, якія чуеш так часта, што пачынаеш грэбаваць імі... Але колькі б ты ні слухаў паланезы Агінскага, а асабліва вялікі паланез ля-мінор ("Развітанне з радзімай") -- ён застанецца блізкі і дарагі твайму сэрцу, будзе закранаць у ім самыя глыбінныя, самыя свае струны". (У.Караткевіч).

Нарадзіўся кампазітар, буйны палітычны дзеяч, "пан, арыстакрат, магнат, нобіль", паводле У.Караткевіча, 25 верасня 1765 года ў вёсцы Гузаў поблізу ад Варшавы. Нашчадак старажытнага, аднаго з буйнейшых беларускіх княскіх родаў, ці мог ён, атрымаўшы бліскучую адукацыю, абраць кампазітарскі шлях? Вядома -- не, але...

**Яна мяне з майго маленства**
**палюбіла**
**І сяміствольную**
**жалейку мне ўручыла.**

Мяркую, што гэтыя радкі пушкінскага верша "Муза" поўнасцю адносяцца і да Агінскага. Бо менавіта з маленства апынуўся ён у чароўным свеце гукаў, калі наведваў "сядзібу музаў" у Слоніме Міхала Казіміра Агінскага, дзе ставіліся драмы, оперы і балеты, калі сямігадовым хлапчуком слухаў оперы ў Венскім тэатры; калі неўзабаве пачаліся ягоныя музычныя заняткі са знакамітым у будучыні кампазітарам, а тады -- 16-гадовым юнаком Восіпам Казлоўскім, які першым адчыніў хлопчыку браму ў велічны храм, дзе да апошніх дзён жыцця знаходзіў Міхал Клеафас прытулак для сваёй стомленай ад пакут лёсу душы...

Дыпламатычная кар'ера -- вось той шлях, які стаў асноўным у ягоным жыцці. Агінскі так сведчыць аб сваім "паслужным спісе": "Дэпутат сойма, член дэпартамента фінансаў, надзвычайны пасол у Галандыі, пасланнік з адмысловай місіяй у Англіі, міністр фінансаў (вялікі падскарбнік) Літвы, салдат у эпоху Польскай рэвалюцыі, прадстаўнік польскіх патрыётаў у Канстанцінопалі і Парыжы і пасля адстаўкі сенатар". Пачаўшы з дзейнасці ў якасці дэпутата сойма ў 19-гадовым узросце, ён неўзабаве адпраўляецца ў Галандыю і Англію з важнымі дзяржаўнымі даручэннямі, а на пачатку 90-х гадоў праз Францыю і Германію вяртаецца на радзіму... Але ў глыбіні свайго сэрца дыпламат песціў творцу. Мемуары і лісты Агінскага сведчаць, што ён заўсёды цікавіўся культурай тых краін, куды заносіў яго лёс. Менавіта ў гэты час ён плануе свае гістарычныя даследаванні, а таксама піша першыя з паланезаў.

Вярнуўшыся ў Варшаву, Агінскі становіцца дэпутатам Чатырохгадовага сойма, які разам з іншымі прагрэсіўнымі рэформамі зацвердзіў Канстытуцыю 3 мая (1791 года), на той час самую дэмакратычную ў Еўропе. Але рэакцыйная шляхта, да якой далучыўся і польскі кароль, незадаволеная памяншэннем сваіх вольнасцей, з дапамогай Расіі і Прусіі распачала ваенныя дзеянні супраць прыхільнікаў канстытуцыі. Сілы былі няроўнымі, і ў 1792 годзе рэформы, прынятыя соймам, а таксама й сама канстытуцыя былі адменены. Дзеячаў сойму чакалі рэпрэсіі, Агінскі, жыццю якога пагражала небяспека, выязджае за мяжу... "На працягу ўсяго гэтага канстытуцыйнага сойму прадстаўнікі Літвы бліскуча раскрыліся ў сваім найчысцейшым патрыятызме і бязмежнай самаахвярнасці дзеля дабра краю", -- напіша праз дзесяцігоддзі Міхал Клеафас у сваіх "Мемуарах".

Тым часам пераможцы, Расія і Прусія, выкарыстоўваюць магчымасць павялічыць свае тэрыторыі за кошт зямель Рэчы Паспалітай. Гвалтоўнае анямечванне і русіфікацыя, нацыянальны і рэлігійны ўціск, канфіскацыя маёнткаў і раздача зямель рускаму дваранству, а таксама растаптаная нацыянальная годнасць і шкадаванне аб страце вялікіх тэрыторый моцнай дзяржавы выклікалі вялікую незадаволенасць у краіне, бо, па словах самога Агінскага, "вялікая частка знакамітых людзей, якія надалі бляск апошнім гадам існавання Польшчы, былі ліцвінамі, і любасць да свабоды, незалежнасці, як і нянавісць да прыгнятальнікаў айчыны, заўсёды характарызавалі вельмі станоўча насельнікаў Літвы".

Усё гэта прывяло да таго, што вясной 1794 года ў краіне пачынаецца праўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, за плячыма якога ўжо вялікі ваенны вопыт (у тым ліку і ўдзел у амерыканскай вайне). І ў пачатку красавіка Агінскі, знаходзячыся ў той час на пасадзе Вялікага падскарбія літоўскага, робіць амаль што неверагодны крок -- прымае ўдзел у паўстанні:

**Пакуль свабодаю гарым,**
**Пакуль у сэрцах ёсць сумленне,**
**Мой друг, айчыне аддадзім**
**Душы прыгожыя імкненні!**

Ці не гэткія ж пачуцці валодаюць Агінскім, калі ён пачынае зваць сябе "грамадзянінам", заяўляе, што гатоў прынесці на алтар вызвалення "свабоду, працу і жыццё", а на сваёй пячатцы замест фамільнага герба змяшчае надпіс: "Вольнасць, роўнасць, незалежнасць". Ён збірае вялікія грошы, каб набыць у Прусіі зброю для паўстанцаў, але за мяжу яго не выпускаюць. Тады, цытуючы У.Караткевіча, "дваццацідзевяцігадовы чалавек на свае грошы сфарміраваў атрад амаль з пяцісот чалавек і ўзначаліў яго. Яны добра біліся і, галоўнае, мужна. З пяцісот засталося сорак. Яны ўзялі Валожын, ішлі на Івянец, раздавалі сялянам трафеі. А пасля іх малады начальнік узначаліў усе паўстанцкія войскі, і галава яго была ацэнена на вагу золата (як быццам можа быць нейкае золата, вартае той галавы, галавы, якая стварала такую музыку)".

**Мы нецярпліваю душой**
**Айчыны чуем закліканні.**

Якую ж Айчыну вызваляў Агінскі? "Пачатак паўстання 1794 года ажывіў вялікі патрыятычны энтузіязм ліцвінаў. Калі б мне ўдалося дайсці датуль (да Мінска. -- **Н.С.**) без вялікага супраціўлення, то я здолеў бы дапасці да Белай Русі, каб заклікаць там да паўстання нейкіх 12 000 сялян з маіх родавых валоданняў, даўшы ім вольнасць"... Дарэчы, падчас паўстання ён наведвае Касцюшку ў Варшаве, каб далажыць аб стане паўстанцкіх сіл на Літве і Беларусі. А якое спачуванне пакутам свайго народа чуецца ў гэтых ягоных словах: "Нашы гарады, нашы вёскі, наша жытло, залітыя крывёю і зрошаныя слязамі, чутны з усіх бакоў енкі і плач шляхты, грамадзян, закаваных у кайданы, якім не прыпісваюць іншага злачынства, як толькі тое, што не адступаюцца яны ад канстытуцыі і што застаюцца адданымі прысязе, дадзенай законнаму ўраду". І не рамантычны ўздым, не гарачая маладая кроў прымусілі Агінскага прыняць бок паўстаўнцаў, а шчыры боль за лёс сваёй зямлі: "Прызнаюся,.. што, ведаючы нашы слабыя рэсурсы і велізарныя сілы, якія можна было выкарыстаць для нашага задушэння, я... наважыўся не пакідаць край, дзяліць небяспеку з маімі суграмадзянамі і хутчэй загінуць са зброяй у руках, чым зняславіць сябе, ухіліўшыся ад удзелу ў патрыятычным уздыме..." Агінскі піша шэраг песень і маршаў для свайго войска (лічыцца, што ён -- аўтар музыкі польскага гімна "Ешчэ Польска не згінела"), рашуча змагаецца нават тады, калі не засталося ўжо ніякай надзеі на перамогу...

**Наталля СОБАЛЕВА.**

**(Заканчэнне будзе).**

## ЗАБЫТАЯ СЛАВА

Шаноўная рэдакцыя!

Пасля адкрыцця мемарыяльнай дошкі на доме Равенскага мы мелі намер ушанаваць памяць Тодара Лебяды. Меркавалі ўстанавіць дошку на плошчы Свабоды, на старадаўнім аднапавярховым доме, дзе ў 60-я гады паэт працаваў у рэдакцыі раённай газеты "Уперад". Але рукі ў нашага мастака Матусевіча пакуль да гэтага не дайшлі. Ён працуе над дзвюма драўлянымі скульптурамі (вой і лірнік) для краязнаўчага музея.

Не дайшлі рукі і ў мяне да новай серыі нарысаў з цыкла "Курапаты Чэрвеньшчыны" (ранейшую я друкаваў у 1989--1990 гадах у раёнцы).

Зараз у гарадскім народным тэатры мы працуем над спектаклем па п'есе А.Дударава "Адцураньне". Пад яе ўражаннем я напісаў верш. Калі мастацкія вартасці і змест дазволяць, надрукуйце яго, калі ласка, у вашай газеце.

Пасля "Адцураньня" калектыў нашага народнага тэатра возьмецца за п'есу "Тры старонкі з жыцця Міколы Равенскага", якую нядаўна напісаў тутэйшы паэт Генадзь Аўласенка.

Здароўя вам і творчага плёну.

Жыве Беларусь!

**Уладзімір ДАРАГУЖ.**

Чэрвень.

## ПЛАЧ ПА БЕЛАРУСІ

*Спадару Аляксею Дудараву, прачытаўшы драму "Адцураньне".*

**Дзе нашых продкаў слава!**
**Арлоў дзе магутныя крылы!**
**Дзе гонар вялікай дзяржавы --**
**Сапегі й Радзівілы!**

**Бураю пакрышыла,**
**шалёнай паводкай сплыло,**
**попелам зацерушыла,**
**чарнобылем парасло.**

**Дзе ён -- народ геройскі!**
**Бацькаўшчына ў бядзе!**
**Чаму сёньня гэтман Астроскі**
**пад Воршу палкі не вядзе!**

**Мо гэта -- кара Боская,**
**і ўжо не прачнуцца яны --**
**Касьцюшкі й Каліноўскага,**
**слуцкіх паўстанцаў сыны.**

**Бураю пакрышыла,**
**шалёнай паводкай сплыло,**
**попелам зацерушыла,**
**чарнобылем парасло.**

# БЕЛАРУСКІ ЗБОРНІК З ОЛЬШТЫНА

**(Заканчэнне. Пачатак на 4-й стар.).**

Факт сам па сабе даволі важкі, калі ўлічыць усё яшчэ рэдкую прысутнасць такіх звестак на старонках польскіх навуковых выданняў.

Артыкул І.Бабкова "Алесь Разанаў. Заўвагі на палях сакрытага часу" ўяўляе сабой спробу неканвенцыянальнага разважання аб вартасці і месцы паэзіі Разанава, як суадносінах у кантэксце іншых літаратур, на фоне сучаснага свету.

Аб пачатках наважытнага беларускага нацыянальнага руху піша Станіслаў Ланец. Ягоны артыкул не ўтрымлівае ніякіх новых звестак ці неспадзяваных адкрыццяў па гэтай тэматыцы, тым не менш ён дае дакладнае і абагульняючае ўяўленне аб нацыянальна ўтваральных працэсах, што адбываліся на Беларусі напрыканцы XIX -- пачатку XX стагоддзяў. Цікава, але ўжо на самым пачатку сваёй працы аўтар адзначае, што ў працэсе гістарычнага і культурнага развіцця беларускага народа дамінуючую ролю адыгрывала беларуская мова. Тадэвуш Зянкевіч разглядае постаць Янкі Лучыны, паэта, пісьменніка, перакладчыка і публіцыста трох культур -- беларускай, польскай і расейскай. Спыняючыся на спрэчцы аб нацыянальнай прыналежнасці Янкі Лучыны (Яна Неслухоўскага), аўтар адзначае, што само па сабе гэта не мае вялікага значэння. "Зрэшты, у адносінах да людзей, народжаных на Беларусі ці ў Літве, цяжка часам адназначна ўсталіць, якой яны былі нацыянальнасці. Акрэсленні "Літва", "літвіны", "Беларусь", "беларусы" могуць мець, апрача этнічнага, таксама іншае гучанне: могуць азначаць месца нараджэння, пачуццёвую сувязь з зямлёй, што мае сваю крыніцу ў гісторыі, з людзьмі, якія тут жывуць, нягледзячы на іх нацыянальнасць", -- піша аўтар. Другую частку свайго артыкула аўтар прысвячае польскамоўнай творчасці Янкі Лучыны, а таксама цікавым фактам ягонай творчай біяграфіі.

Аналізуючы польскія пераклады паэзіі Максіма Багдановіча, Зофія Скібіньска адзначае, што менавіта яны ў значнай ступені спрычыніліся да змены традыцыйнага ў некаторых колах польскіх пісьменнікаў погляду на беларускую літаратуру як на прыстасаваную да патрэбаў простага люду. Дзякуючы перакладчыцкай працы Яна Гушчы, Тадэвуша Хрусцялеўскага, Віктара Варашыльскага, Яна Капроўскага, шмат хто зразумеў, што гэтая літаратура мае глыбокія інтэлектуальныя творы лірычна-філасофскага характару. Большая частка артыкула З.Скібіньскай прысвечана параўнаўчай ацэнцы перакладаў і іх набліжанасці да арыгінала. Цікавую тэму развівае Марыя Акудовіч-Бенькоўска ў змешчаным у зборніку артыкуле "Вобраз духоўнай культуры беларускага люду ў выказваннях Яна Баршчэўскага". Даследуючы публікацыі польскіх часопісаў, што выходзілі на беларуска-літоўскіх землях у 30--50-я гады XIX стагоддзя, яна параўноўвае літаратурнае ўспрыняцце Беларусі аўтарам "Шляхціца Завальні" з фальклорнымі даследаваннямі і навуковымі падыходамі Зарыяна Далэнгі-Ходакоўскага.

Алесь Баршчэўскі і ольштынскі літуаніст і беларусіст Мечыслаў Яцкевіч прысвяцілі свае тэксты творчасці Васіля Быкава. І калі першы з іх больш імкнецца прасачыць мастацкую эвалюцыю пісьменніка, дык другі асноўную ўвагу надае прысутнасці ягоных твораў у Польшчы ў 60--80-я гады. "Галоўнымі героямі сваіх твораў зрабіў ён суровую праўду, заблытанасці, чалавечыя трагедыі. Ён пеўца салдацкага лёсу, гераізму і трагедыі асоб, якія мусілі цярпець паразу дзеля таго, каб перамог народ", -- заключае свой артыкул А.Баршчэўскі. А М.Яцкевіч, ацэньваючы творчасць беларускага пісьменніка, у якасці аднаго з найважнейшых крытэрыяў твораў Быкава вылучае праўду псіхалагічнай драмы на лакальным узроўні, якая найбольш выразна выкрывае ягоны характар. Павагу выклікае скрупулёзнасць, з якой аўтар пералічвае не толькі ўсе (нават газетныя) публікацыі перакладаў твораў пісьменніка ў Польшчы, але і рэцэнзіі на іх у польскай прэсе. А іх дастаткова шмат, бо творчасць В.Быкава пад канец сямідзесятых гадоў была ўжо добра вядомая польскім крытыкам і шырокаму колу чытачоў. Настолькі, што сталася тэмай некалькіх навуковых распрацовак. З 1963 па 1982 год у Польшчы былі выдадзены амаль усе найбольш важныя творы пісьменніка, якія выйшлі ў арыгінале да 1982 года, а ягоная творчасць была прынята польскім чытачом вельмі добра, адзначае М.Яцкевіч.

Да творчасці Янкі Брыля і яе ўспрымання ў Польшчы звяртаецца польская даследчыца Ірына Рудзевіч, аб мастацтве і гісторыі ў паэзіі Уладзіміра Караткевіча піша нестар польскай беларусістыкі Фларыян Няўважны. Своеасаблівым даведнікам аб беларускай меншасці ў Польшчы з'яўляецца матэрыял Зоі Ярашэвіч-Перэслаўцаў, у якім можна знайсці дакладныя звесткі не толькі пра сучасны культурны і канфесійны стан тамтэйшых беларусаў, але і беларускія арганізацыі, школьніцтва, выдавецкую дзейнасць на Беласточчыне. У зборнік увайшлі таксама іншыя артыкулы па філалагічнай і мовазнаўчай тэматыцы.

У цэлым найноўшая "беларуская" публікацыя Ольштынскай вышэйшай педагагічнай школы ўносіць чарговую вартасную лепту ў скарбонку даследаванняў беларушчыны, карысных, дарэчы, не толькі для Польшчы.

**Юрась ВАШКЕВІЧ.**

## ВЯРТАННЕ Аўгена КАЛУБОВІЧА

# НА КРЫЖОВЫХ ДАРОГАХ

У канцы снежня 1994 года ў памяшканні клуба "Спадчына" праходзіла вечарына, прысвечаная выдатнаму сыну беларускага народа, грамадскаму дзеячу, гісторыку і літаратару Аўгену Калубовічу.

Нарадзіўся Аўген Калубовіч 5 сакавіка 1910 года ў мястэчку Ціхінічы Рагачоўскага раёна Гомельскай вобласці. Ён скончыў пачатковую школу ў сваім мястэчку, сямігодку ў Рэчыцы, а ў 1930 годзе Педагагічны тэхнікум у Бабчыне. 30 мая 1930 года быў арыштаваны за прыналежнасць да беларускай нацыяналістычнай арганізацыі Альтруістаў. Тры гады пакарання адбыў у канцэнтрацыйных лагерах на Далёкім Усходзе СССР. Аб гэтым Аўген Калубовіч у 1986 годзе выпусціў кнігу ўспамінаў "На Крыжовай Дарозе".

Вясною 1933 года ён вярнуўся са ссылкі. Настаўнічаў спачатку ў сябе на радзіме, потым у Мінску. Увесь час знаходзіўся пад пагрозаю магчымага чарговага арышту.

У час другой сусветнай вайны актыўна ўключыўся ў палітычную дзейнасць: быў сябрам Беларускае рады даверу, сябрам Беларускай цэнтральнай рады, старшынёю Беларускага культурнага згуртавання.

У сярэдзіне 1944 года эмігрыраваў у Нямеччыну. У 1945 годзе пры актыўным удзеле Аўгена Калубовіча ў Рэгенсбургу паўстаў Беларускі нацыянальны камітэт. Каб пазбегнуць прымусовай рэпатрыяцыі, памяняў сваё прозвішча. Да 1950 года пад імем Аўгена Каха624ноўскага жыў у Нямеччыне, потым эмігрыраваў у ЗША, дзе жыў і працаваў да самай смерці. Памёр Аўген Калубовіч 25 мая 1987 года.

Адкрываючы вечарыну, старшыня клуба "Спадчына" Анатоль Белы адзначыў, что імя Аўгена Калубовіча несправядліва забыта.

Сын Аўгена Калубовіча Аўген у сваім выступе распавядаў аб тым, што на нашай Бацькаўшчыне правіць баль Чарнобыль. Але страшнейшы іншы Чарнобыль -- духоўны. Гэта манкуртызм. Нам дасталася крыжовая спадчына. Гісторыя наша фальсіфікавалася. Народ падаваўся як нейкі статак, які вялі на забой. На самай справе гэта было не так. Існавала супраціўленне таталітарнаму рэжыму. Адным са сведчанняў гэтага была дзейнасць арганізацыі Альтруістаў, сябрам якой быў Аўген Калубовіч.

Цікавай і хвалюючай была прамова пробашча касцёла Святых Сымона і Алены ксяндза Уладзіслава Завальнюка. Ён заклікаў схіліць свае галовы перад нашымі бацькамі, яны чэрпалі свае сілы ў Храме Божым. Мы павінны адраджаць не толькі культуру слова, навукі. Лепшая будучыня залежыць ад духоўнасці людзей.

Прысутнічаў на вечарыне і паплечнік Аўгена Калубовіча, удзельнік Другога ўсебеларускага кангрэса Аляксей Анішчык. Ён адзначыў, што Аўген Калубовіч быў добрым сябрам. Праца, якую рабіў ён, працягваецца і сёння.

Цімох Вострыкаў, вучань Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе, у якой выкладаў Аўген Калубовіч, падзяліўся сваімі ўспамінамі пра жыццё беларускай эміграцыі ў Нямеччыне пасля другой сусветнай вайны. Беларусы мелі свой хор, гурток пры школе. Тут працавалі кампазітары Мікола Равенскі і Мікола Куліковіч-Шчаглоў, Міхась Міцкевіч (брат Я.Коласа), Антон Адамовіч.

На вечарыне выступілі таксама вядомыя грамадскія дзеячы і навукоўцы: Анатоль Грыцкевіч, Ганна Сурмач, Юры Хадыка, Леў Мірачыцкі.

Прафесар Адам Мальдзіс у сваім выступленні адзначыў, што першы крок па вяртанню Аўгена Калубовіча на Радзіму зроблены.

Сапраўды, гэта так: перавыдадзена на Беларусі кніга Аўгена Калубовіча "На Крыжовай Дарозе", у 1993 годзе выйшаў з друку зборнік даследаванняў, артыкулаў, успамінаў "Крокі гісторыі".

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## НАПРЫКАНЦЫ ГОДА

*Наша бедная, пакінутая на волю лёсу культура ўсё ж неяк існуе, і ў культурным жыцці рэспублікі адбываюцца больш ці менш значныя падзеі. Праходзяць музычныя, харэаграфічныя фестывалі (часцей за ўсё не без дапамогі спонсараў), адкрываюцца музеі і новыя экспазіцыі, праходзяць выставы. Тры здымкі, змешчаныя ніжэй, сведчаць пра тры культурныя падзеі, што адбыліся напрыканцы 1994 года.*



**Вялікі вернісаж групы пінскіх мастакоў прайшоў у Брэсце, у карціннай галерэі Саюза мастакоў Беларусі. На суд гледача было прадстаўлена каля 80 карцін і гравюр, якія апяваюць прыгажосць пінскай зямлі, людзей, што жывуць на ёй. Гэтая экспазіцыя адкрыла серыю выставак, на якіх будуць прадстаўлены майстры пэндзля іншых гарадоў Брэсцкай вобласці.**

**НА ЗДЫМКУ: пінскія мастакі Наталля БАНДАРЭНКА, Жанна ШКРОБА, Сяргей КОПРУСАЎ, Сяргей МІГАЛЕВІЧ, Аляксандр ҐАНЖУРАЎ, Віктар ЗАЙКО, Сяргей ХАРАШАЎЦАЎ, Яўген ШАТОХІН на адкрыцці выстаўкі ў Брэсце.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**



**У час Калядных святаў упершыню пазнаёмяць немцаў са сваім майстэрствам артысты Беларускага тэатра юнага гледача. Яны дадуць два прадстаўленні ў горадзе Мангейм, што на поўдні Германіі. Іх запрасіў на гастролі нацыянальны маладзёжны тэатр "Шнавль". Беларускія артысты пакажуць спектакль "Пра гэта не гавораць" і музычнае прадстаўленне "Навагодняя ноч".**

**НА ЗДЫМКУ: рыхтуецца праграма для замежнай паездкі.**

**Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.**

**Вядомы кінарэжысёр Віктар Дашук прадставіў гледачам работы сваіх маладых калег Галіны Адамовіч і Юрыя Азаронка. Гэта дакументальныя стужкі "Палюбі мяне чорненькім" і "Маналог пасля смерці". Апошняя на прэстыжным міжнародным фестывалі славянскіх фільмаў у Тыраспалі атрымала галоўны прыз.**

**Галіна Адамовіч і Юры Азаронак -- выпускнікі Беларускай акадэміі мастацтваў, вучні Віктара Дашука.**

**НА ЗДЫМКУ: кінарэжысёр Віктар ДАШУК (у цэнтры) са сваімі вучнямі, а цяпер калегамі Галінай АДАМОВІЧ і Юрыем АЗАРОНКАМ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**



# У ПОШУКАХ НЕАДКРЫТАГА

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Так што дом праектаваўся не для бібліятэкі, а як рэзідэнцыя магнатаў. У 1866 годзе Польскае гісторыка-літаратурнае таварыства атрымала ад французскага імператара статус грамадскай арганізацыі. Гэта значыць, з коштаў, атрыманых у спадчыну, ды іншых грамадскіх ахвяраванняў не плаціўся падатак.

Усё, што ёсць у музеі, захавалася дзякуючы сыну паэта Уладзіславу. Праўда, далёка не кожны з творцаў-геніяў пахваліцца такім нашчадкам. Адам Міцкевіч меў шасцёра дзяцей. Уладзіслаў -- найстарэйшы, найболей да бацькі прывязаны.

Колькі гадоў таму ў Парыжы з'явіліся два розныя пераклады на французскую мову паэмы А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Адначасова таксама з'явіўся французскі пераклад "Дзядаў" і "Крымскіх санэтаў". У музей зляцеліся парыжскія журналісты амаль у шоку: патлумачце, што гэта за феномен? Што гэта за Mikiewicz? (Французы маюць праблему з вымаўленнем ягонага прозвішча). Маўляў, выдатныя нашы паэты не могуць дазволіць сабе лішні (?!) раз выдаць шчуплы зборнік паэзіі, а тут раптам столькі кніг і такіх самавітых, капітальных з аднаго вонкавага выгляду. Перакладчыкамі былі французы, прыродныя французы, таму сутыкнуліся з вялікімі цяжкасцямі (як жартавалі самі, мелі цвёрды арэшак do wygryzienia). Перад тым яны прыходзілі ў міцкевічаўскі музей з дакладамі, гаварылі пра свой энтузіязм і адначасова пра тупіковую сітуацыю, калі найкапітальнейшыя слоўнікі не падавалі слоў тыпу dziecielina (адвечна беларускае, з хлапчуковага маленства вядомая "дзяцяліна"). Першы арыгіналаўтограф "Пана Тадэвуша" меў загаловак "ZEGOTA". А першы радок першапачаткова гучаў "Ojczyzno, Litwo moja".

Як і меркаваў згодна папярэдне праведзеным "тэарэтычным" росшукам па бібліятэчных каталогах, выдадзеных яшчэ да вайны, у бібліятэцы адшукаліся пісьмы і дакументы ўдзельніка паўстання 1831 года, знакамітага этнографа, піянера польскай і беларускай фатаграфіі, паэта, педагога, гісторыка, мастака-графіка, літографа і кнігавыдаўца Аляксандра Рыпінскага. Праўда, 7 сшыткаў успаінаў пра Лістападаўскае паўстанне 1830--1831 гадоў на Беларусі (пераважна Вілейскі, Дзісенскі, Браслаўскі паветы) -- не ўсё аўтарства Рыпінскага, а ягоных сяброў па зброі, аднак апрацаваны яны Рыпінскім. Накшталт:

Nr. 7 s. 693--716. Wypis czyli Noty, wyjete z Dziennika jednego z Podchorazych Dyneburgskich a teraz Podporucznika Pulku 7-go Piechoty Liniowej Polskiej WJP Antoniego Labunskiego, sluzace do historyi Powstania Powiatu Dzisnienskiego. Rok 1831. Miesiac Kwiecien.

Усе ўспаміны пісаліся па прапанове малавядомага цяпер нават спецыялістам-гісторыкам Таварыства Літоўскага і Земляў Рускіх (г. зн. беларуска-ўкраінскіх), якое ўзнікла ў Францыі пасля паражэння паўстання. Кіравалі ім пераважна нашыя землякі Леанард Ходзька, граф Адам Плятар, Адам Міцкевіч, Іаахім Лялевель... Вельмі паказальны момант: адзін са сшыткаў успамінаў падпісаны "Аляксандр Рыпінскі, беларус". (Avignon. dnia 1-go Sierpnia 1832 r. Alexander Rypinski, Bialorusin). Успаміны, як бачым, датуюцца 1832 годам -- факт беспрэцэдэнтны ў гісторыі самаакрэслення нацыянальнасці прадстаўніком нашага народа ў першай палове XIX стагоддзя. Да "Дудкі беларускай" Францішка Багушэвіча заставалася больш паўстагоддзя. І зборнік Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Дудар Беларускі" з'явіўся значна пазней, у 1857 годзе.

Таксама ў бібліятэцы захоўваецца каля 20 кніжак Рыпінскага, выдадзеных ім на эміграцыі ва ўласнай друкарні ў Лондане (пераважна 1850-я гады). Амаль усе "парыжскія" экземпляры пазначаны дароўным надпісам аўтара, які, на жаль, вялікай інфармацыйнай каштоўнасці не ўтрымлівае (накшталт Bibliotece Polskiej w Paryzu od Autora). Але збор сам па сабе вельмі каштоўны, паколькі ў бібліятэках Беларусі няма і дзесятай часткі кніг Рыпінскага. І нават Нацыянальная бібліятэка Францыі валодае ўсяго адным выданнем (кніга "Bialorus", Парыж, 1840).

Акрамя матэрыялаў А. Рыпінскага, вялікую каштоўнасць для Беларусі ўяўляе асабісты архіў Вайніслава-Казіміра Сулімы-Савіч-Заблоцкага (прынамсі, значная частка). В.К. Заблоцкі з'яўляўся асабістым сакратаром прэм'ер-міністра Францыі Луі Гамбеты (да 1882 года), пакінуў пра яго каларытныя ўспаміны. Пісаў прозу (на польскай, рускай, французскай мовах), паэзію, журналісцкія допісы. Значную цікавасць уяўляе таксама ягоная перапіска з Ю. Крашэўскім, А. Гілерам, сям'ёй Чартарыскіх. На жаль, збор крыху і расчараваў. Рукапісы выключна на польскай, нямецкай, французскай, расейскай мовах. Я ж пасля знаходкі ў Кракаве ягонага вельмі патрыятычнага вершапанегірыка, прысвечанага Юзафу Багдану Залескаму (надрукаваны ў маёй кнізе "У прадчуванні знаходак"), спадзяваўся і ў Парыжы адшукаць новых доказаў паэтычнага таленту Сулімы-Савіч-Заблоцкага на роднай мове. Праўда, беларускае слова па-ранейшаму ратуе неўміручы фальклор. У таго ж Вайніслава ў славістычных лекцыях-запісах сустракаюцца беларускія песенькі. А што Вайніслаў быў "нацыяналістам" -- да мозга касцей! -- сведчыць выяўлены адзін з ягоных псеўданімаў -- Всеслав Константинович Кривичанин!

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКУ: дырэктар Польскай бібліятэкі ў Парыжы Лешак ТАЛЬКА і супрацоўніца Ганна ВЫСОЦКАЯ.**

**(Заканчэнне будзе).**

# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПІСЬМО

**КАМІТЭТ ПА АРХІВАХ І СПРАВАВОДСТВУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧЫ ЦЭНТР ДАКУМЕНТАЗНАЎСТВА, АРХЕАГРАФІІ І АРХІЎНАЙ СПРАВЫ
БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ КЛУБАЎ ЮНЕСКА
ЧАСОПІС "БЕЛАРУСКАЯ МІНУЎШЧЫНА"**

**арганізуюць і праводзяць у верасні 1995 года ў Мінску міжнародную навуковую канферэнцыю па тэме:**

## "ЗАРУБЕЖНАЯ АРХІЎНАЯ БЕЛАРУСІКА".

На канферэнцыі мяркуецца абмеркаваць наступныя асноўныя праблемы:
-- выяўленне дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі ў архівах, музеях і бібліятэках блізкага і далёкага замежжа;
-- прававое забеспячэнне рэстытуцыі беларускіх архіваў;
-- архівы беларускай эміграцыі;
-- перыядычныя выданні беларускай эміграцыі як крыніца па гісторыі Беларусі;
-- беларусіка ў замежных краінах;
-- агляд дакументаў і матэрыялаў па гісторыі Беларусі, што знаходзяцца ў замежных архівах, бібліятэках і музеях;
-- лёс архіва БНР;
-- іншыя пытанні, звязаныя з замежнай архіўнай беларусікай.

Заяўкі на ўдзел у канферэнцыі просім накіроўваць да 1 красавіка 1995 года, а тэзісы дакладаў і выступленняў (да 5 старонак машынапісу праз 1,5 інтэрвала, магчымы тэкставы файл на гібкім магнітным дыску, на беларускай, англійскай і рускай мовах) да 1 чэрвеня 1995 года па адрасу:

**220048, г.Мінск, вул. Калектарная, 10. Камітэт па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь. Тэлефоны для даведак: 20-51-20, 20-51-91.**

## АРГКАМІТЭТ

**міжнароднай навуковай канферэнцыі па тэме "Зарубежная архіўная беларусіка"**

МІХНЮК Уладзімір Мікалаевіч, дырэктар Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументазнаўства, археаграфіі і архіўнай справы (БелНДЦДААС), доктар гістарычных навук, прафесар, -- старшыня.

ШАБАЛІН Аляксандр Андрэевіч, прэзідэнт Беларускай асацыяцыі клубаў ЮНЕСКА -- намеснік старшыні.

## ЧЛЕНЫ АРГКАМІТЭТА:

АДАМУШКА Уладзімір Іванавіч, начальнік аддзела навуковага выкарыстання дакументаў і матэрыялаў Белкамархіва, кандыдат гістарычных навук.

ВАНЦКІ Арсень Мікалаевіч, старшыня прэзідыума Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі с зарубежнымі краінамі.

ВАРАБ'ЁЎ Аляксандр Васільевіч, начальнік аддзела арганізацыйнай работы і міжнародных сувязей Белкамархіва.

ЖЫЛЕВІЧ Наталля Іванаўна, адказны сакратар камісіі па справах ЮНЕСКА, саветнік МЗС Рэспублікі Беларусь.

КРЭНЬ Іван Платонавіч, загадчык кафедры гісторыі Беларусі Гродзенскага дзяржуніверсітэта, кандыдат гістарычных навук, прафесар.

ЛОЙКА Леанід Вікенцьевіч, галоўны рэдактар часопіса "Беларуская мінуўшчына", кандыдат гістарычных навук.

МАЗАЙ Ніна Мікалаеўна, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Францыі, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА.

МАКАРЭВІЧ Аляксандр Фёдаравіч, вучоны сакратар БелНДЦДААС, кандыдат гістарычных навук.

МАЦКЕВІЧ Вацлаў Генрыхавіч, галоўны рэдактар газеты "Голас Радзімы".

СУРМАЧ Ганна Іванаўна, старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

ЦІТОЎ Анатоль Кірылавіч, загадчык аддзела архівазнаўства БелНДЦДААС.

ЦАПКАЛА Валерый Вільямавіч, першы намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь.

ШУПЛЯК Пётр Аляксеевіч, дэкан гістарычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта, кандыдат гістарычных навук.



**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**На ёй былі прадстаўлены творы старэйшых беларускіх майстроў саломапляцення -- Таісы Агафоненка, Лідзіі Главацкай, Аляксандры Грэсь, Ніны Кузняцовай, якія сведчаць пра тое, што ў сённяшнім мастацтве працягваюцца найбольш каштоўныя народныя традыцыі.**

**Старшыня саюза Яўген Сахута сказаў, што ў мінулым вырабы з саломкі адыгрывалі ролю абрадавую і бытавую. Цяпер яны толькі творы мастацтва. І майстры, прытрымліваючыся шматвяковых традыцый, развіваюць іх на сучасным узроўні.**

**Акрамя вырабаў з саломкі, на выставе дэманстраваліся экспанаты са скуры, дрэва, бісеру, кераміка, распісныя мініяцюры. Ёсць дамоўленасць паміж музеем і майстрамі, што выстава "Калядныя ўзоры" стане традыцыйнай і будзе праводзіцца штогод.**

**НА ЗДЫМКАХ: у адной з залаў музея; экспанаты выставы.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**



# РАДЗІМА

Словы І.ЦІТАЎЦА Музыка М.СЛІЗКАГА



**Мая незалежная маці-радзіма,
Ты светлаю зоркай гарыш у жыцці,
Ты мне, як матуля, на свеце адзіна,
З табою адзінай жыццё мне прайсці.**

**Мяне ты вучыла, духоўна расціла,
Мне лепшае ўсё, што змагла, аддала.
Мая Беларусь мне, як сонейка, міла,
Яна мае мары на крылы ўзняла.**

**Для нас застаецца заўсёды сваімі
Сыны, што па беламу свету пайшлі,
Хай сцяг наш дзяржаўны лунае над імі,
Іх шчыра пакліча да роднай зямлі.**

**У яркім суквецці краін і народаў
Адродзім гаротны і дзіўны свой край.
Радзіма мая! Расцвітай год ад году
І людзям планеты такое жадай.**

*СПОРТ*

## ЛАЎРЭАТЫ ГОДА

Прайшоўшы год для спартсменаў Беларусі выдаўся даволі ўдалым. Выступаючы на міжнародных спаборніцтвах, яны нярэдка выходзілі пераможцамі, устанаўлівалі сусветныя рэкорды. І не выпадкова, што ў традыцыйным пераднавагоднім апытанні журналістам цяжка было вызначыць лаўрэатаў -- спартсменаў, якія ўвайшлі б у першую дзесятку, вызначыць лепшых сярод лепшых.

У мужчын першае месца дасталася Івану Іванкову -- лідэру сусветнай гімнастыкі. Усяго пяць ачкоў уступіў яму шматразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў і свету цяжкаатлет Аляксандр Курловіч.

Крыху лягчэй было вызначыць лепшую спартсменку 1994 года. Перавага біятланісткі Святланы Парамыгінай над галоўнымі канкурэнткамі была відавочнай. І гэту перавагу забяспечыла напалоцкай спартсменцы ўдалае выступленне на зімовых Алімпійскіх гульнях у Ліліхамеры, а таксама зусім нядаўнія старты Святланы на розыгрышы Кубка свету, дзе яна таксама вызначылася.

Спіс на званне "Лепшыя спартсмены 1994 года" на гэты раз аказаўся даволі вялікім. Ці не таму сярод лепшых у дзесятку ўвайшлі і канькабежац, і шахматыст, і легкаатлеты. Самі ж лаўрэаты, Іван Іванкоў і Святлана Парамыгіна, раней у апытанні журналістаў ніколі не набіралі такую высокую суму балаў.

**Габрыэль ЛАЎБ**

## АФАРЫЗМЫ

**Пры першай спробе мыслення чалавецтва пачало жыць не па сродках.**

**Мозг і азадак -- сазлучаныя сасуды: ніхто не пачне думаць, пакуль не дастане выспятка.**

**Дыназаўры вымерлі таму, што мелі недаразвіты мозг. Чалавецтва спрабуе ісці адваротнай дарогай.**

**Тэорыя -- гэта неабмежаваны запас цытат на ўсе выпадкі.**

**Улада тэорыі! Тэорыя ўлады! Адны маюць уладу, іншыя -- тэорыі.**

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



**НАШ АДРАС:**

**220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1. Падпісана да друку 2. 1.1995 г.